

*В. І. Дунін-Марцінкевіч*

**Беларускі пісьменьнік, драматург і тэатральны дзеяч.**


**БЕЛАРУСКІ СЬВЕТ**

**BYELORUSSIAN WORLD**

**NO. 10 (39) - 1981**

# КУПАЛІНКА

Беларуская народная песьня















Купалінка, купалінка,
Цёмная ночка,
Цёмная ночка,
Дзе ж твая дочка! | 2 разы

Мая дочка ў садочку
Ружу, ружу поліць,
Ружу, ружу поліць,
Белы ручкі коліць. | 2 разы

Кветачкі рвець,
Кветачкі рвець,
Вяночкі звівае,
Вяночкі звівае,
Слёзкі пралівае. | 2 разы

## Вінцук Дунін-Марцінкевіч

**(1807 - 1884)**

Вінцук Дунін-Марцінкевіч нарадзіўся ў 1807 годзе ў фальварку Панюшкевічы на Бабруйшчыне ў сям'і дробнага шляхціца. Да гэтага часу бацькі яго страцілі ўласны маёнтак і вымушаны былі займацца арэндай. У маляўнічых ваколіцах Беразіны прайшлі дзіцячыя гады будучага пісьменьніка.

Першапачатковую асьвету Дунін-Марцінкевіч атрымаў дома, затым вучыўся ў Бабруйскай павятовай гімназіі, якую скончыў у 1824 годзе. Неўзабаве пасьля гэтага Марцінкевіч паступае ў Пецярбурскі ўнівэрсытэт на мэдычны факультэт. Пасьля двух гадоў навукі ён, расчараваўшыся ў прафэсіі мэдыка, пакідае ўнівэрсытэт і вяртаецца на радзіму.

Ад 1827 г. Марцінкевіч жыве й працуе ў Менску, займаючы невялікія чыноўніцкія пасады. У 1840 годзе яму ўдалося прыдбаць невялікі маёнтак Люцынку, і з гэтага часу пісьменьнік жыве то ў Люцынцы, то ў Менску.

Зь юнацкіх гадоў Марцінкевіч захапляўся літаратурай. Але стала заняцца любімай справай яму перашкаджалі розныя акалічнасьці. Распачаў сваю літаратурную дзейнасьць Марцінкевіч на саракавым годзе жыцьця. Літаратурная дзейнасьць Марцінкевіча пачынаецца ў 1840-ых гадох і ўжо ў 1846 годзе выдаецца яго камэдыя "Сялянка", музыку да якой напісаў Станіслаў Манюшка. "Сялянка" ўпяршыню была пастаўлена на сцэне ў 1852 годзе ў Менску пры непасрэдным удзеле аўтара.

Доля пісьменьніка спачатку спакойная, рэзка зьмянілася ў дні Паўстаньня 1863-64 гг. У 1863 годзе была арыштаваная й высланая ў Салікамск дочка Дунін-Марцінкевіча Каміля. У 1864 годзе быў арыштаваны й сам Марцінкевіч. Яго абвінавацілі за ўдзел у Паўстаньні й за напісаньне адозваў на беларускай мове ды пашырэньні іх сярод сялянства ў 1863 г. За год Марцінкевічу ўдаецца выйсьці на волю, але яму даводзіцца быць пад строгім паліцэйскім наглядам амаль да канца свайго жыцьця.

Побач зь літаратурнай дзейнасьцей Марцінкевіч праводзіў вялікую культурна-асьветніцкую працу. Ён актыўна ўдзельнічаў ў аматарскіх тэатральных гуртках, наладжваў спэктаклі й літаратурныя вечары.

Марцінкевіч быў гарачым прыхільнікам пашырэньня асьветы сярод народу. "Наш народ, — гаварыў пісьменьнік, — мае права да навукі на роднай мове так, як да нябеснага хлеба". Ён прымаў актыўны ўдзел у арганізацыі народных школаў. На ўласныя сродкі ён заснаваў у Люцынцы школу для вясковых дзяцей. У гэтай школе сам пісьменьнік і яго дочкі вялі заняткі. Дунін-Марцінкевіч змагаўся за

свабоднае разьвіцьцё беларускай мовы й літаратуры, за бесперашкоднае навучаньне грамаце на роднай мове.

Рукапісная спадчына пісьменьніка не захавалася — яна зьгінула ў пажары.

Пры жыцьці Дунін-Марцінкевіча былі выданы яго зборнікі: "Вечарніцы", Менск, 1855; "Гапон", Менск, 1855; "Цікавішся —прачытай", Менск, 1856; "Дудар беларускі, ці Ўсяго патроху", Вільня, 1857. Тры паэмы былі апублікаваныя ў 1940-ых гадох — "Травіца брат-сястрыца", "Быліцы. Расказы Наума" й "Халімон на каранацыі". Лепшыя творы пісьменьніка — сатырычныя камэдыі: "Пінская шляхта" й "Залёты" былі выданыя ў 1918 годзе.

Трэба таксама зазначыць, што першым перакладчыкам на беларускую мову паэмы "Пан Тадэуш" А. Міцкевіча быў Дунін-Марцінкевіч.

Памёр Дунін-Марцінкевіч 17 сьнежня 1884 году й пахаваны ў Падневічах недалёка Люцынкі.

Вінцук Дунін-Марцінкевіч

## У КАРЧМЕ

(Зь вершаванае аповесьці «ГАПОН»)

**Шум, крык, гоман у карчме,**
**Кіпіць сельская дружына,**
**Піва, мёд, гарэлку п'е,**
**Ажно курыцца чупрына.**

**Гаспадары за сталом**
**Громка гутарку вядуць;**
**А ляндарка зь ляндаром**
**Мёд, гарэлку раздаюць.**

**Хлопцы, дзеўкі, маладзіцы**
**Ля парогу гаманяць,**
**А старыя чараўніцы**
**Цішком ля печы сядзяць.**

**Ананія на скрыпцы граець**
**«Лявоніху», то «бычка»;**
**Гапон жару паддаваець:**
**«Заграй, крычыць, «казачка»!**

**. . . . . . . . . . . .**

**Аж юкнула Кацярынка,**
**Так задаў ёй кулаком:**
**«Хадзі, мая ты малінка!» —**
**Дый затупаў хадаром.**

**«Ананія, рэж вясёлы!» —**
**Крычыць громка наш Гапон,**
**Дый сабраўшы ў сьвітцы полы,**
**Мэрам хохлік! мэрам ён!!**

**То ўпрысядкі выкідаець,**
**Ажно стогнець пад ім пол,**

То галубца падбіваець,
Ажно трасецца хахол.

«Ах! ух! давай жару,
Давай болі, давай пару!» —
Крычыць Гапон дый гуляець,
Пад скрыпачку падпяваець:

«Эй, чух, Кацярынка!
Чабоцікі красны;
Каму блішчаць, каго любяць
Твае вочкі ясны?
Эй, чух, Кацярынка!
Твае кудры ўюцца,
Скачыць, пляшыць мая міла,
Аж шчочкі трасуцца».

Тройчы Гапон прамахнуў
Брашджаць ножны з агнівом,
Стаў на месцы — падпрыгнуў,
Дый затупаў хадаром.

Кацярынка-ж успляснула,
На міленькага зіркнула,
Хвіць! спаднічку распусьціла,
Тройчы запяткам падбіла,
Дробны ножкі выкідаець,
Чаравічкі скрыпяць,
А із вочак аж зіяець,
Быццам іскры ляцяць.
Русы коскі падлятаюць,
Касьнікі, як жар, гараць;
А вось вышай як заграюць,
Так і возьме прыпяваць:

«Мілы Хартон, мілы Саўка,
Да мілейшы-ж мой Гапон,
Хахол ясны, пояс красны,
А галасок, кабы звон.
Не хачу Саўкі, Хартона, —
Мне жыцьця зь імі ня быць,
Валей маяго Гапона,
Зь ім ня буду я тужыць».

Пяець, пляшыць, падбіваець,
Усяк вокам за ёй брадзець,
Як ластаўка, падплываець,
Ажно хочацца глядзець.

Ананія-ж — воўча юха!
То ўжо нечага маніць!
Ярка рэжа із-за вуха,
Аж скрыпка яго зьвініць.
«Мяцеліцу» прабірае,
Ёмка, громка, ладны час!
Дробна смыкам падсякае,
Зьвініць рымка, гудзіць бас.
Локаць упёршы у бруха,
Ля кабылкі нос дзяржаў,

Далей сьціхнуў — дый з-за вуха
На «Лявоніху» падняў.

Схваціў Гапон Кацярынку,
Сьмела к сэрцу прыцягнуў,
Абняўшы рукой за сьпінку,
«Лявоніху» успрыгнуў.

Угрунь за ім маладзіцы,
Дзеўкі, хлопцы, хто як змог,
Дрыжаць чупрыны, спадніцы,
Суматоха — што крый Бог!
Ад пылу аж пацямнела,
Хохат, лопат, шум ды крык,
Як у гаршку закіпела,
Як на быдла напаў зык.
Той ўпрысядкі, той выкідкі,
Чупрыны, як шчэць, дрыжаць,
Тая бокам, тая скокам,
Дый так возьмуць прыпяваць:

«Ах, калі-ж я у матулькі была,
Як вішанька у садочку цьвіла;
Папалася злому духу — мужыку,
Ён высушыў, як ліпінку у духу.
Наехала повен двор татароў
Ды ўзялі-ж майго мужа у палон;
Ня жаль-жа-ж мне, што яго ўзялі,
Толькі шкода, што някрэпка зьвязалі;
Ён, паганец, уцячэць, уцячэць,
Мне галоўку натаўчэць, натаўчэць.
Трэба-ж будзе сьцерагчыся, уцякаць,
Зь вераб'ямі пад страхою начаваць».

Далей крыкнула Тацьцяна,
Абняўшы за шыю Яна:
«Пайшоў Янка у грыбы,
Тацьцяна ў апенькі,
Спаткаліся, абняліся,
Як дзеткі маленькі».

А за ёю Халімон
Гудзіць, як царкоўны звон:
«Ой, Божа мой, Божа!
Нашто я радзіўся?
Састарэўся, як сабака,
Дасюль не жаніўся».

Перастаў. — Гапка спляснула
Дый тоненька зацягнула:
«На вуліцы курта брэша,
А да мяне мілы чэша,
А ці чэша, ці ня чэша,
Ды ня дарам курта брэша!»

Вось так пляшуць, прыпяваюць,
Хохат, лопат, крык і зык,
Аж пад строп пыл падмятаюць,
А як рэзаў — рэжа смык!

# УЛАДЫСЛАЎ СЫРАКОМЛЯ

## ДАКУМАНТЫ Й МАТАРЫЯЛЫ АБ ЯГОНЫХ ДАЧЫНЕНЬНЯХ ДА БЕЛАРУСКАЙ МОВЫ Й ЛІТАРАТУРЫ

### Караспандэнцыя ў «Газэту Варшаўскую» з 23 чэрвеня 1855 г.

Адчуваем невыказнае жаданьне падзяліцца з чытачамі нашай газэты ўражаньнем, атрыманым пасьля прачытаньня маленькай, сьціплай кніжачкі пад загалоўкам «Вечарніцы», паэзія Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча (Менск, выданьне й друкарня Екаля Дворца [1]), 1855, 134 стар.). Твор гэты напісаны на беларускай, або дакладней, крывіцкай мове.

Прыгожая гэтая галіна славяншчыны — гэты крывіцкі дыялект! Бо гэта мова нашага Літоўскага Статуту й законадаўства, так пашырана на працягу двух стагодзьдзяў — XVI-XVII! Сьмела можна сказаць, што на ёй гаварылі тры чверці даўняй Літвы: народ, шляхта й магнаты! Сёньня гэтая мова, пазбаўленая пісьмовага значэньня, засталася жыць толькі пад сялянскай страхой і налічвае, наколькі я ведаю, толькі двух пісьменьнікаў: адным зь іх быў незабыўнай памяці Ян Чачот, другі — В. Д. Марцінкевіч.

Першы зь іх у сваіх кніжачках пад назовам «Вясковыя песенькі з-над Нёмана й Дзьвіны» шырока карыстаўся мовай і паэзіяй крывічанскага народу, зьбіраў яго песьні, перакладаў іх удзячным польскім вершам, выдаў іх арыгінальны тэкст, спрабаваў сам ствараць песенькі на гэтай мове, зьбіраў народныя прыказкі і, зрабіўшы над мовай шмат глыбокіхназіраньняў, стварыў першы падмурак яе граматыкі...

Марцінкевіч, выдатна знаёмы са складам ды найтанцейшымі адценямі крывіцкай мовы, першы адважыўся ствараць вялікія творы на нашай народнай гаворцы. Першы вядомы яго твор — «Сялянка», які выйшаў некалькі гадоў назад ды з посьпехам ставіўся ў Менску, мае яшчэ й тую вартасьць, што аўтар надзяліў войта Навума-Прыгаворку многімі арыгінальнымі й жыцьцёвымі народнымі прымаўкамі — матарыялам вялікай вартасьці для разнастайнага вывучэньня народных звычаяў.

Бытавая рэчаістасьць падказала аўтару карыстацца польскімі дыялёгамі побач з крывіцкімі — адпаведна ад таго, хто выступае на сцэне: ці пан, аканом або хто іншы зь ліку тых, якія міжсобку гавораць па-польску, або народ з сваёй уласнай крывіцкай мовай; гэтая двумоўнасьць часамі не падабалася для пераборлівых эстэтаў (...)

У дні маладыя, у час мой шчасьлівы,
І я араў наднямонскую ніву... [2])

І я ведаў крывіцкую мову ды карыстаўся ёю з посьпехам у гутарках зь сялянамі Жукавага Барка [3]). Жыцьцёвая бура выгнала мяне з тых старонак, але я запамятаў гэтую мову настолькі, каб даць чытачом адпаведную справаздачу пра другі твор пана Марцінкевіча «Вечарніцы». Паспрабую перадаць каларыт гэтых вершаваных ґутарак, хоць і сумняваюся, ці ўдасца мне гэта, таму загадзя прашу прабачэньня ў чытачоў.

У зборніку ёсьць дзьве так званыя «вечарніцы»: першая складаецца з трох, а другая зь дзьвюх песень.

Першая песьня першай вечарніцы зьяўляецца як-бы пралёгам: вясёлы дзядок Ананія, бедны, але паважаны чалавек, не хадзіў больш у карчму... Вечарынкі ў ягонай хаце надалей бывалі людныя, бо нямала было жадных паслухаць апавяданьні старога. Вось аднойчы ён пачаў:

...Няма як Менск наш — дзетачкі міленькія,
Прыгожы, відны, кругом весяленькі:
Ні адной мізэрнай не сустрэнеш хаты,
Вось, маўляў, сьнег белы, з каменьня палаты...

Гэты цудоўны ўступ, найлепш нам спадабаўся з усёй першай вечарніцы...

Другая вечарніца зьяўляецца гутаркай са старой мінуўшчынай крывічан ды мае назоў «Стаўроўскія дзяды» (...)

Вялікае значэньне мае тое, як зьбіраць з чыста гістарычнай мэтай лягенды, што дайшлі да нас з дахрысьціянскай славяншчыны, як па-мастацку ўзнаўляць у паэзіі тую мінуўшчыну, што сінеецца зь імлы вякоў, мінуўшчыну, некалькі зьвестак якой данесла да нас гісторыя, а многія мы выкапалі з курганоў. Здаецца, іх не так многа, але й з гэтага матарыялу геніяльны вучоны зможа стварыць геніяльны твор накшталт Гамэра, бо тое, чаго ні старая магіла не паказвае, можна знайсьці пад саламянай страхой, у народнай памяці, у паданьнях, казках, прыказках, забабонах і мове...

«Газэта Варшаўска», 1855, 4(16) №184.

**Аднатацыі:**

Вядомы польска-беларускі паэт Уладыслаў Сыракомля (1823-1862) прысьвяціў творам В. Дуніна-Марцінкевіча тры рэцэнзіі ў «Газэце Варшаўска», у №№ 184, 244 за 1855 год ды ў № 16 за 1857 год. У іх разглядаліся творы беларускага пісьменьніка «Вечарніцы», «Гапон» і «Купала». У Сыракомля надрукаваў таксама аглядавы артыкул «Працы Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча» (газэта «Кур'ер Віленскі», № 19 і 20 за 1861 г.), які ў значнай меры пераклікаўся з папярэднімі рэцэнзіямі. Новае ў ім было толькі тое, што Ул. Сыракомля дае крытычны агляд зборніка В. Дуніна-Марцінкевіча «Дудар беларускі» (Менск, 1857), у якім былі зьмешчаны паэмы «Літаратурныя клопаты» й «Шчадроўскія дажынкі» (гэта толькі частка артыкула з «Кур'ера Віленскага» тут памешчана). Выступленьні Ул. Сыракомлі ў польскім друку — больш зьмястоўныя й грунтоўныя ў дачыненьні да Дуніна-Марцінкевіча.

[1]) Екель Дворац — выдавец і уласьнік друкарні ў Менску, дзе выдаваліся творы В. Дуніна-Марцінкевіча.

[2]) Радкі з паэмы У. Сыракомлі «Кавалак хлеба» (пераклад К. Цьвіркі).

[3]) Жукаў Барок — вёска ў Стаўпцоўскім раёне. Непадалёку У. Сыракомля арандараваў фальварак Залучча.

## УЛАДЫСЛАЎ СЫРАКОМЛЯ. Караспандэнцыя ў «Газэту Варшаўскую»

Барэйкаўшчына, 17 жніўня, 1855 г.

У адной з папярэдніх нашых караспадэнцыяў у «Газэту Варшаўскую» гаварылі мы пра літаратуру на беларускай мове й пра напісаныя на той мове «Вечарніцы» пана Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча; цяпер, атрымаўшы новы твор таго-ж аўта-

ра на гэтай-жа мове, сьпяшаемся расказаць пра яго.

«Гапон» (такі назоў кніжкі, Менск, выданьне Бейлінаў, 125 стар.). Побач з паказам народных звычаяў аўтар яшчэ меў утылітарную мэту — зьвярнуць увагу паноў на выбар аканомаў, хоча агульнымі інтарэсамі прымірыць паноў і сялян, хоча даць у рукі народу кнігу, напісаную на яго мове ды пра яго жыцьцё, каб прывучыць народ да чытаньня. Паглядзімо, як аўтар справіўся з гэтымі важнымі літаратурнымі й грамадзкімі справамі. Агляд наш зробім упрошчаным спосабам, перакажам зьмест ды растлумачым характэрныя асаблівасьці твору.

Дзеяньне пачынаецца малюнкам вясковай гулянкі, якая напамінае баляду пра пані Твардоўскую [1]); рэй вядзе селянін Гапон, пары танцуючых мільгаюць перад намі, у іх прыпеўках гучаць мэлёдыі народных песьняў, чуваць вясковая скрыпка, гоман у хаце. У самы разгар гуляў адчыняюцца дзьверы, і ўваходзяць аканом з войтам. Грамада танцуючых адчула штосьці нядобрае, зьбялеў Гапон, бо адразу зразумеў, што прыйшлі браць яго ў рэкруты; хапіў ён кол, стаў сьпіною ў кут і пачаў махаць калом, пагражаючы кожнаму, хто падыдзе да яго; але не памог яму гэткі чын абароны, пачалі кідаць на яго адзежу, ублытаўся ён, яго зьвязалі; зьбялела, заплакала, страціла прытомнасьць Кацярына, яго каханая, зь якой Гапон так весела танцаваў.

У другой песьні апавядаецца пра жыцьцё Гапона й даецца тлумачэньне, чаму ён менавіта, а ня хто іншы зь вясковай моладзі, узяты на вайсковую службу. Гапон кахаў Кацярыну, зь ёю заручаны, маткі каханых, суседкі й прыяцелькі ўхвалілі іх выбар. Але Кацярына прыгожая дзяўчына, а пан аканом меў вока на вясковую прыгажуню; Кацярына верная свайму каханаму, а канкурэнт задумаў адхіліць Гапона рэкруцкім паборам...

У трэйцяй песьні паказаны горад Магілёў... Набор рэкрутаў. У памешканьні суду засядаюць маршалак [2]), вусаты воінскі начальнік, тоўсты доктар, худы пракурор ды малады прыгожы афіцэр, які павінен прыняць рэкрутаў. Уваходзяць аднадворцы [3]) прызначаныя да здачы, сярод іх знаёмы аканом, які ня здолеў дакумантамі пацьвердзіць сваё шляхоцкае паходжаньне й якога чакае лёс, які рыхтаваў Гапону. Доктар прабуе даказаць, што аканом хворы, але яго перабівае малады афіцэр і на сваю адказнасьць загадвае здаць аканома ў рэкруты. Спалоханы аканом пазнае Гапона.

Кацярына ў чацьвёртай песьні паказана адукаванай паненкай. Аднойчы вечарам, калі яна з паняй сьпявала сьвятыя песьні, даюць знаць, што прыехаў нейкі афіцэр ды просіць дазволу зайсьці. Чытач здагадваецца, што гэта Гапон; далей ідзе шлюбная прапанова й вясельныя абрады, бо Гапон не іначай хоча зрабіць па старому бацькаўскаму звычаю: пасылае сваху з гарэлкай да старой маці Кацярыны, гуляюць заручыны, вясельле й — канец аповесьці.

Пан Марцінкевіч мае цудоўны дар вобразна маляваць народ — ручаюся напэўна, бо добра ведаю гэты шчыры народ беларускага, крывічанскага племені.

Па-майстэрску паказаны яго звычаі, прымаўкі, склад думак, калі паэт заглядае ў сэрца герояў, ёсьць у яго малюнках і жыцьцё, і праўда. Але ў «Гапоне» няма той наіўнай сэнтымэнтальнасьці, якая нас бянтэжыла ў «Вечарніцах» тагож аўтара. Сцэны праўдзіва ўзяты з жыцьця, але некаторым зь іх не хапае эстэтычнага пагляду мастака, які іх апаэтызаваў-бы, не хапае драпіроўкі, якая ўмела прыкрывала-б залішне рэзкую праўду. Бойка Гапона з аканомам, размова апошняга з войтам правільныя, але, відаць, таму, што вельмі праўдзівыя... Ці-ж наш народ

жыве толькі цяжкім жыцьцём? Ці-ж няма ў яго хвілін узьнёслых і паэтычных? Такі знаўца народу, як пан Марцінкевіч, ведае, што такія хвіліны ёсьць, і ня рэдка ёсьць. І ў «Сялянцы», і ў «Вечарніцах», і ў «Гапоне» паказаў ён не адну такую радасную хвіліну народнага жыцьця, але ў гэтым апошнім творы не зусім закончыў свае малюнкі, на будзённых сцэнах многа, а на ўрачыстых мала прыціскаў пяро. Меў аўтар зручную магчымасьць намаляваць сцэну, калі афіцэр у часе набору пазнае свайго прыгнятальніка. Няхай-бы Гапон быў вялікадушным — наш народ умее быць вялікадушным у падобных выпадках...

Наш паэт сам апавядае, што ў народзе, калі свайго дабіўся, то прабачваюць ворагу: «ляжачага ня б'юць», «пакорнай галавы з плеч не зьнімаюць», што за цудоўныя выказваньні нашага народу...

Спадзяюся, што гэтыя прыязныя заўвагі не саб'юць аўтара з пахвальнай дарогі народнай літаратуры, бо інакш цяжкі грэх узялі-б на сябе, на сваё сумленьне...

Віншуем горад Менск з тым, што ў ім абуджаецца літаратурны рух...

«Газэта Варшаўская», 1855, 4(16) верасьня, № 244. Пераклад з польскай.

---

[1]) У. Сыракомля меў на ўвазе баляду А. Міцкевіча «Пані Твардоўская», якая пачынаецца радкамі:

П'юць, гуляюць, люлькі смаляць,
Танцы, гулянкі, сваволя,
Ледзь карчмы той не разваляць:
Ха-ха! Хі-хі! Гэй-жа! Голя!

[2]) Маршалак — павятовы кіраўнік дваранства.

[3]) Аднадворцы — дзяржаўныя сяляне зь ліку «служылых» людзей, якія ня былі прыгоннымі.

## УЛАДЫСЛАЎ СЫРАКОМЛЯ. Тыднёвы агляд

Барэйкаўшчына, дня 17 сьнежня 1856 г.

У адным з нашых літаратурных аглядаў у «Газэце Варшаўскай» мы зь вялікай увагай гаварылі пра творы Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча, пісаныя на беларускай мове, на мове нашага простага народу. Наш разгляд «Вечарніц» гэтага аўтара выклікаў палемічны адказ у той-жа «Газэце», падпісаны літарай У[1]); розныя перашкоды не дазволілі мне адказаць на яго адразу... але вось новы народны твор Марцінкевіча (аповесьць пад назовам «Купала» ў кніжачцы «Цікавішся? — Прачытай!») дае нам магчымасьць для новага агляду й перш за ўсё для адказу на пытаньні пана У.

Дык вось: у № 138 «Газэты Варшаўскай» за 1856 год пытаецца ў нас пан У, па-першае: «Ці заслугоўваюць творы, напісаныя на беларускай мове, радаснага прывітаньня, незалежна ад вартасьці іх зьместу?»

Адказваем: Ні адзін і ні на адной мове напісаны твор не заслугоўвае радаснага прывітаньня, калі ён не зьяўляецца прыгожым або карысным; але, калі якая-небудзь мова або гаворка зь непісьмовай становіцца пісьмовай, кожная кніжка, што выдаецца на ёй, заслугоўвае ўвагі, як доказ таго, што нараджаецца патрэба пісаць на гэтай мове або гаворцы...

Пытаньне другое: «Ці можна гэтую мову (беларускую) ўзьняць да таго, каб

яна перадавала ўсе думкі, і ў стылёвых адносінах удасканаліць да такой ступені, каб яна магла лічыцца асобнай мовай?»

Адказ: Так, бо яна мае дастаткова гібкасьці ды разам з тым сілы, яна перадае ў паэзіі тонкія й далікатныя пачуцьці, у жывой гаворцы мае простыя звароты, трапныя выразы. Няма ў ёй некаторых выразаў для перадачы таго, што не ўваходзіць у паняцьці й патрэбы нашага народу, але з прагрэсам самога-ж народу й з разьвіцьцём пісьмовай мовы здолее яна са сваіх крыніц выпрацаваць такія словы й паняцьці, якія сёньня адсутнічаюць. Кожная мова праходзіць этап фармаваньня.

Пытаньне трэйцяе: «Ці трэба імкнуцца да гэтай мэты, нават пры тым дапушчэньні, што дасягнуць яе нялёгка»..

Адказ: Варта й трэба, як да ўсяго, што скіравана да прагрэсу. Вельмі ўмоўна паважаны апанэнт усю багатую славянскую мову дзеліць толькі на чатыры галіны, гэта значыць на мовы расейскую, польскую, чэскую й сэрбска-харвацкую. Мы не пярэчым, што гэтыя чатыры мовы зь ліку славянскіх гаворак больш разьвітыя ў літаратурных дачыненьнях, але навошта-ж іншыя мовы пазбаўляць права на ўдасканаленьне, навошта, напрыклад, у мове беларусаў бачыць толькі мешаніну расейскай і польскай моваў? Хіба пад гэта самае вызначэньне можна падцягнуць і маларасейскую мову? Калі так, то чаму-ж чэскую й сэрба-харвацкую мовы шаноўны апанэнт узьнімае да годнасьці асобных моваў? Аднак-жа ў іх можна знайсьці элемэнты й расейскія й польскія.

У адным мы ахвотна згаджаемся з апанэнтам, што ўдасканаленьне якой-небудзь мовы ня можа быць справай аднаго або некалькіх геніяў, а павінна быць справай усёй грамадзкасьці, якая гэту патрэбу адчувае...

Вось кніжачка Марцінкевіча з арыгінальным назовам: «Цікавішся? — Прачытай» (Менск, 1856). Складаецца яна з трох аповесьцяў і аднаго верша [2]) Мэтай гэтага артыкула зьяўляецца разгляд аповесьці на беларускай мове «Купала».

(...) У гэтым творы п. Марцінкевіча (бедным што да зьместу, але багатым на вобразы, што сьведчыць аб ягоным паэтычным талянце) мы знаходзім яшчэ адзін доказ таго, што беларуская мова мае ў сабе магчымасьці для самастойнага разьвіцьця... Мы раілі-б толькі аўтару, каб ён пазьбягаў палянізмаў і кніжных выразаў, каб дыялектызмы адной мясцовасьці ці ваколіцы не пераносіў на ўсю беларускую мову, каб таду толькі запазычаў словы зь іншых моваў, калі ў сваёй, на якой піша, ня знойдзе патрэбных (...)

Нарэшце, заўвага, якую мы раілі-б п. Марцінкевічу сур'ёзна прыняць да сэрца. Бог ня ўкладвае бяз мэты ў нашыя галовы й сэрцы любові й таленту да той ці іншай галіны ведаў. Ён мае адносна нас і нашага прызначэньня свае мэты, якія мы павінны выканаць. Паэзія народная, беларуская, зьяўляецца арэнай п. Марцінкевіча — няхай ён трымаецца на ёй, як запраўдны глядыятар.

Цэзар, горды Юлі Цэзар, дыктатар Рыму, сталіцы сьвету, праязджаючы праз бедную вёску й прыпомніўшы грознага ў Рыме канкурэнта Пампэя, сказаў гэтыя памятныя словы: «Хацеў-бы я тутака быць першым, чымся ў Рыме другім».

«Газэта Варшаўская» 1857, студ. № 16. Пераклад з польскай.

---

[1]) Пад такім крыптанімам пісаў у газэце Ф. Скібіцкі (1796-1877).

[2]) У кнізе В. Д. Марцінкевіча «Цікавішся? — Прачытай!» былі «Купала», «Блаславёная сям'я», «Славяне ў XIX ст., верш «Хіба я стары?»

(...) Чацьвёртая, нарэшце, публікацыя, пра якую маемся цяпер гаварыць, — «Дудар беларускі» [1]). З братэрскай падзякай прымаем адрасаванае нам прысьвячэньне [2]), бо мы заўсёды, шануючы аўтара, аддавалі належнае яго добрым намаганьням. Першую частку кніжкі складаюць «Літаратурныя клопаты» ў якіх аўтар польскімі вершамі паказвае аўтарскія беды, калі з гатовым рукапісам ён шукае для яго пакупніка. Рыжабароды кнігагандляр дае яму дзесяць рублёў, і то кніжкамі, багаты паніч, які, аднак, шануе грошы, ахвяроўвае яму патрэбную для друку суму, але на трыццаць працэнтаў. Аўтар адмовіўся ад такой «дапамогі» й, здабыўшы дзесьці ў іншым месцы марны мэталь, убачыў, нарэшце, свой твор надрукаваным... але на жаль, бяз пакупнікоў у пэрспэктыве. Новыя перамовы з кнігагандляром, каб той узяў твор на камісію, і новыя зь яго боку абуральныя ўмовы.

Ня ведаю, ці да месца такога роду публічная споведзь пра штодзённыя клопаты, праз якія мы праходзім. Пры сабе лепш пакінем той хлеб, сьлязамі паліты ды попелам пасыпаны, калі мы ямо з ласкі барадатых і безбародых прыхільнікаў літаратуры! Мінуў час мэцэнатаў, і добра, што мінуў, бо мы ня вымушаны прымаць прыніжальную падтрымку ад прыватных асобаў, сьледам за якой, хоць міжвольна, ідзе нявольніцкая лісьлівасьць. Лепшай ды больш ганаровай апекай могуць стацца гандлёвыя й земляробскія супалкі... і мы ўпэўнены, што й нас пісьменьнікаў вызваляць з-пад апекі кнігагандляроў. Ужо сёньня падтрымку літаратуры, г. зн. пакупку кніжак, публіка лічыць грамадзкім абавязкам, але што з таго? Плацячы нячувана дорага за польскія кніжкі, яна ўзбагачае выдаўцоў, не паляпшаючы быт аўтараў.

Верачы ў выратавальныя грамадзкія супольнасьці, мы будзем цярпліва чакаць, а тым часам цешымся з Марцінкевічам, які знайшоў спачуваньне на Беларусі, ды ў вёсцы Шчарах сьвяткуе дажынкі са сваім любімым народам...

«Шчараўскія дажынкі» — гэта паэма на народнай мове. Грыпіна, стогадовая бабуля, зьяўляецца пракам у сваёй вёсцы; да яе сходзяцца людзі; паважныя матроны акружаюць яе. Гэты арэапаг [3]) павінен выбраць дзяўчыну, якая заўтра панясе ў двор дажынкавы вянок. Умовы для гэтага гонару даволі цяжкія, таму кожная зь дзяўчат павінна прайсьці праз даволі клапатлівыя выпрабаваньні, асабліва калі ўзяліся за варажбу з рэшатам і пеўнем. Была выбраная шчасьлівая Тадора. Насупраць двара ў Шчарах стаіць маленькая хатка, жыве ў ёй Акуліна, бедная ўдава, матка выбраньніцы. Тадора — прыгожая дзяўчына, якая ўсім падабаецца, але яна не пазьбегла злога паклёпу, ад якога яе ўрачыста вызваліла варажба зь пеўнем. Але вось дажынкі! У Шчароўскім двары стаіць на ганку малады любімы паніч, у чорнай капоце й канфэдэрадцы, і слухае дажынкавую песьню, якая даносіцца да яго з поля. Набліжаецца голас... Гэта йдзе дажынкавая грамада, наперадзе якога абраная дзяўчына зь вянком. Зноў гучыць песьня; адзін са слуг нясе на сярэбраным падносе хлеб, сыр і грошы, і яшчэ песьня й прамова Тадоры да пана, і пачастунак з гавяды й бараноў, і песьні, песьні бяз ліку. Заканчваецца застольле скокамі, у якіх прымаюць удзел і ўладальнік маёнтка, і войт Навум Прыгаворка, у якім пазнаем вядомую нам постаць аўтара. [4])

Так выглядаюць пераказаныя сухой прозай «Дажынкі», трэба іх чытаць у энэргічных і пачуцьцёвых беларускіх вершах Марцінкевіча, і ўспаміны маладосьці

сьвятой сьлязой акропяць нашыя павекі.

Няхай-жа аўтар не стамляецца ў сваім высакародным намаганьні выхоўваць народ, няхай асьвячае яму розум, узьнімае сэрца, выбіраючы прадметы для сваіх апавяданьняў, і, нарэшце... няхай ня лічыць сваёй заслугай апісаньне ў занадта дакладных фарбах дробязяў штодзённага жыцьця...

«Кур'ер Віленскі», 1861, 7 і 10 сакавіка, № 19-20. Пераклад з польскага.

1) Зборнік В. Д.-Марцінкевіча «Дудар беларускі ці ўсяго патроху», Менск, 1857. У ім надрукаваныя вершы: «Сумленным беларусам», «Верш Навума Прыгаворкі», паэмы «Літаратурныя клопаты» й «Шчароўскія дажынкі».

2) У паэме «Літаратурныя клопаты», прадмова была прысьвечаная У. Сыракомлі.

3) Арэапаг, у ст. Грэцыі назоў суду, які вырашаў розныя справы.

4) Навум Прыгаворка — персанаж «Сялянкі».

Апрацаваў гістарычна й падрыхтаваў да друку В. Пануцэвіч.

---

Вінцук Дунін-Марцінкевіч

## ВЕРШ НАВУМА ПРЫГАВОРКІ

На прыезд да м. Менска Апалінарага Контскага 1) Уладыслава Сыракомлі й Станіслава Манюшкі.

Засьвяцілі тры звёздачкі ў пару нам шчасьліву!
Заляцелі тры сакалы ды на нашу ніву!
Ня зьвёздачкі-ж то нябесны, што ярка мігаюць,
Не сакалы, што шырока бушуюць у полі;
А прыбылі тры дудары, — так пяюць, іграюць,
Што ангелы надзівіцца не ў сіле здаволі!

Адзін дудар з ляшскай нівы, то-ж братняя ніва!
Другі зь Вітавай усадзьбы 2) — быццам адной маці!
Госьцікі-ж то дарагенькі! — нечага казаці,
Сэрцам, душой іх прымайце! — то-ж, міленькі, дзіва!
А трэці дудар між намі ўзрос, ён нам братка,
Яму менская зямелька родненькая матка!

Адзін смыкам як пацягне па сваёй скрыпіцы,
То салодкі брызнуць сьлёзкі, маўляў із крыніцы;
Душа жарам абальецца, ад роскашы млее.
Баш па працы чарка водкі жывот абагрэе.

Другі дудар як запяе пад дудку сваячу,
Вось і добры пан заплача — і я зь ім заплачу:
Із губ сыпле ён славечкі, як краскі, прыгожы,
Рубіць пярцом, як тапарцом, праўдай на сьвет Божы.

Чаму-ж гудуць яго песьні, быццам салавейкі? —
Бо ўсе пад свойску думу, ўсе з роднай зямелькі!

Трэці дудар як загудзе песенькі радненькі,
Бяду ды гора забудзеш, станеш весяленькі!

А так думкі прыуныўны соладка сьпявае,
Што за сэрца, баш кляшчамі, дзетачкі, хватае!
Злосна вам, сыны заморскі, завідна, паняты!
Што славянская зямелька у розум багата;
Вы-б хацелі ўсе розумы — і свае і нашы,
Маўляў саранча на ніве, паесьці у кашы.
Не даждацца-ж, мудрагелі! — і нашая ніва
Вялікімі дударамі уздоволь шчасьліва!
Біце-ж чалом тром сакалом, хлапцы, маладзіцы!
Гэта-ж кветкі з свойскай веткі — славянскай зямліцы!

---

[1]) Скрыпач і кампазытар.
[2]) Значыцца зь Вільні, дзе жыў У. Сыракомля.



Васіль Сініца

# МАЁ МЯСТЭЧКА

## (УСПАМІНЫ)

працяг

Бэрка хоць і ня ведаў нотаў, але як на самавука цудоўна граў на скрыпцы. Яму трэба было толькі добра ўслухацца ў якуюсь мэлёдыю, каб ён яе дакладна запамятаў і мог без памылак паўтарыць нават па ўплыве пэўнага часу. Апрача таго, ён мог імітаваць галасы птушак, а нават і жывёлаў. У ягоных руках скрыпка сьпявала, як салавейка або жаваранак, каркала як варона, кудахтала як курыца, або нават бляяла як авечка ці брахала малым сабачанём.

Яго ніколі ня трэба было доўга прасіць, каб штосьці заграў, бо наагул ён граў ахвоча, але ніколі не даўжэй як 15-20 хвілін, а ўжо пазьней ніякія просьбы не маглі яго змусіць прадаўжаць граньне. Таксама ён ніколі ня граў за грошы. І так Бэйнусавы намаганьні, каб уцягнуць яго ў сваю капэлю ня мелі посьпеху.

Камічнай натурай Бэркі было й тое, што ён любіў апавядаць ім-жа самым выдуманыя здарэньні ў якіх ня было й крышачкі праўдападобнасьці. Мне здаецца, што Бэрка папросту хацеў быць дамарослым баронам Мюнхгаўзэнам, бо ён быў даволі начытаным, і мог штосьці ведаць аб гэтым бароне. Але местачкоўцы не разумелі яго й збывалі гэта кпінамі.

Для прыкладу вось адна зь ягоных гісторыяў: «Аднаго разу я йшоў з Дварнова ў Юркава, дык прышлося мне пераходзіць праз возера па тоненькім лёдзе, — хлусіў, як з нотаў Бэрка. — Раптам лёд паламаўся й я апынуўся па шыю ў вадзе. Колькі я ня клікаў ратунку, ніхто мяне не пачуў. Тады я пайшоў у Казачкі й за пяць злотых наняў людзей, якія ня толькі мяне выцягнулі, але ў дадатак яшчэ напаілі самагонкай, каб я добра разагрэўся».

Трэба зазначыць, што паміж Дварновам і Юркавым ня было ніякага возера, дый ня магло быць з той простай прычыны, што прадоўжаньне Дварноўскай вуліцы тварыла пачатак Юркава, і дзе канчалася першае а пачыналася другое ведалі, хіба, толькі ўласьнікі скрайніх хатаў. А вёска Казачкі была ад іх адлеглая каля чатырох кілямэтраў.

Далей я хачу апісаць некаторых местачкоўцаў, якія хоць і ня жылі пры рынку,

але найчасьцей іх можна было там спаткаць. Гэта ў першую чаргу Якуб Баравік (ня быў сваяком Воўкі), кліканы чамусьці бацькавым імям Дарахвей; царкоўны сторож Міхась Грыдзюшка, па прычыне свайго малога ўзросту кліканы «Міхалачкам» і Адам Драгун, або папросту «Адась».

Дарахвей сьмела мог-бы быць аб'ектам для псыхалёгаў і псыхіятраў. Праз усё сваё жыцьцё ён стараўся паказаць сябе чалавекам няпоўнага розуму, хоць розуму, а асабліва хітрасьці ў яго было бадай ці ня больш, як у тых, якія стараліся паказаць сябе вельмі разумнымі. Тайніцу, чаму ён удаваў з сябе дурнога, ён панёс з сабой у магілу. Што ён такім ня быў, можна судзіць хоць-бы з таго, што ён нядрэнна разьбіраўся ў розных пытаньнях сялянскага жыцьця. Аднак, зусім не па-сялянску, ня толькі што ня любіў, але брыдзіўся ўсялякай працы й рознымі хітрыкамі стараўся ад яе выкруціцца. Ня гледзечы на сваю скрайнюю беднасьць, ён ніколі й нічога не прасіў, але й ня дзякаваў, калі яму давалі. Таксама, здаецца, скарэй памёр-бы з голаду, чым адважыўся штосьці ўкрасьці. Хоць, штопраўда раз у жыцьці ён быў украў..., дый не абы што, каня! Таксама пэўны час ён сумленна папрацаваў. Але гэта былі ў ягоным жыцьці выпадкі надзвычайныя, і аб іх я раскажу пазьней.

Высокага ўзросту й атлетычна збудаваны, ня гледзячы на сталае недаяданьне, ён аднак быў чалавекам нязвычайнай фізычнай сілы. Але гэтай сілы ён ніколі ня ўжываў у бойцы, з той простай прычыны, што ён ніколі й нікога ня ўдарыў, хоць і страшэнна лаяўся й пагражаў, калі яго дражнілі. Ён ведаў усю «паднаготную» жыхароў амаль усяе гміны. Вельмі часта гэтыя ягоныя веды сягалі аж да бацькоў і дзядоў. Таму ён заўсёды метка падпякаў ўсім тым, што адважыліся дражніць яго. Калі-ж у яго ўжо не хапала аргумэнтаў супроць асабліва вытрывалых праціўнікаў, ён заканчаў спрэчку сьцьверджаньнем, што яны маўляў камуністыя. Цікава й тое, што даслоўна за пару дзён пасьля прыходу бальшавікоў, ён зьмяніў гэты эпітэт на «панскія падлізы».

Хоць Дарахвей высьцерагаўся працы, як агня, усёж-такі ён меў пэўны занятак, і то можна сказаць сталы. У кірмашовыя дні — аўторкі й дні ў якіх адбываліся царкоўныя й касьцельныя фэсты, ён лічыў сваім абавязкам сачыць за тым, каб прыехаўшыя на кірмаш ці фэст сяляне стаўлялі свае вазы ў раўнюсенькія рады. Апрануты ў рызманы й у дзераваяшках заміж ботаў, а таксама чамусьці заўсёды ў старой і падзёртай паліцыйнай шапцы, ён наводзіў парадак і панічны страх, асабліва на жанчын і тых, хто яго менш ведаў. Бо гора таму бедаку, чый воз ненарокам высунуўся хоць-бы на паўмэтра з раду. Размахваючы на галавой нейкай даўбешкай падобнай да тых, якімі гаспадыні таўклі бульбу, ён налятаў на сваю ахвяру, як каршун на курыцу. Сьпярша праўда, ён толькі страшэнна лаяўся, а калі гэта непамагала, вешаў сваю даўбешку на руку пры помачы якогась матуза, й схапіўшы за задок ваза папіхаў яго ў адпаведным кірунку. Калі-ж здарыўся больш упарты конь, тады ён хапаў яго аднэй рукой за вобруць, а другой даваў яму таўхялі пад бок, пакуль воз не апыніўся на адпаведным месцы. Пасьля гэтага твар Дарахвея прыймаў зусім іншы выгляд і ён неяк па-дзіцячаму ўсьміхаючыся казаў: — Ну, бачыш, вось і ўсё ўпарадку. Калі-ж гэта была жанчына, то ён асабліва стараўся супакоіць яе. — Ну, і чаго-ж ты спужалася? — ласкава пытаў ён. — Гэта-ж я не на цябе!

На гэтыя Дарахвеевы парадкі паліцыя глядзела праз пальцы, хоць ён часамі й пераступаў за войстра, але рабіў тую працу, якую прышлося-б рабіць ім самым.

Мажліва, што часамі яму патаемна штосьці й плацілі, бо часта можна было бачыць, як пасьля кірмашу Дарахвей выходзіў з пякарні з матком абаранкаў на шыі.

Дык вось калі Дарахвей ня быў заняты на кірмашы ці фэсьце, дык ён зімой і летам сланяўся па рынку й вуліцах мястэчка, аж пакуль якаясь больш жаласьлівая гаспадыня не паклікала яго ў хату й не дала яму кавалак хлеба ды гарачай стравы. Аднак скончыўшы есьці ён ніколі не заседжваўся ў хаце баючыся, каб не далі яму нейкай працы. Асабліва ў гэтым пытаньні была для яго небясьпечнай мая бабка Хрыстына. Заклікаўшы, бывала, яго ў хату й наліўшы адпаведную да ягонага ўзросту міску капусты ды далажыўшы да гэтага слушны кавалак дранкі, яна хітравата ўсьміхаючыся займала стратэгічную пазыцыю паміж дзьвярыма й Дарахвеем за сталом. Калі-ж пасілак ужо набліжаўся да канца, яна хуценька брала з качарэжніка прыгатаваную загадзя сякеру й кладучы яе на лаўцы дзе сядзеў Дарахвей казала: — Якубка, (яна між іншым называла Дарахвея ягоным запраўдным імям) — можа ты-б пашчапаў крыху дроў? Вось Валодзю неяк разбалелася рука. Пашчапай крышку, даражэнькі, — ласкава прадаўжала яна, — я табе яшчэ чагосьці дам зьесьці

Дарахвей, як апараны ўскакваў са свайго месца й хуценька глытаючы рэшткі гарачай дранкі казаў: — Ай-яй,я! Я-ж ледзь не забыўся, што ў мяне сёньня сьвята. — Якое-ж сьвята, Якубка? — ізноў дапытвалася бабка. — Ды сёньня-ж пайшоў сёмы год, як памёр мой бацька, — скарагаворкай адказваў Дарахвей і ледзь не зваліўшы з ног бабку, хуценька выбягаў. Мінуўшы толькі некалькі хатаў, ён адважваўся аглянуцца ці ня гоніцца за ім бабка Хрыстына, а пазьней праз добрых пару тыдняў здалёку амінаў яе хату.

Была яшчэ адна асаблівасьць у Дарахвея, якой не змаглі-б пахваліцца й тыя, якія лічылі яго дурнем. Ня ўмеючы чытаць, і дзеля гэтага не разьбіраючыся нічагусенькі ў календары, ён мог вам без памылкі вылічыць ў якія дні прыпадаюць тыя ці іншыя праваслаўныя або каталіцкія сьвяткі, і ў якіх цэрквах ці касьцёлах Дзісьненскага й частках сумежных паветаў адбываюцца зьвязаныя з гэтымі сьвяткамі фэсты. Мала таго, ён ведаў, як завуць таго ці іншага сьвятара й якую ён мае матушку, — маладую, старую, прыгожую ці брыдкую, а таксама ці добрую ці скупую, ведама, што ён лічыў сваім гонарам хадзіць на ўсе гэтыя фэсты, і дзе яму гэта ўдавалася наводзіць свае парадкі.

Дарахвееева агіда да працы была прычынаю таго, што пасьля сьмерці бацькоў, усёй іхняй ня зусім малой гаспадаркай заўладалі бацькавы браты, бо на ёй некаму было ані працаваць, ані аплачваць падаткі.

Але вось адзін раз у жыцьці й хоць праз вельмі кароткі час, бо ўсяго толькі праз 8-10 тыдняў Дарахвею прышлося папрацаваць, а таксама страціць апінію сумленнага чалавека. А справа выглядала так: На Маставой вуліцы жыў мястачковец Грышка Аніськовіч са сваёй жонкай Агатай. Жылі яны толькі ўдваіх, бо іх сын выехаў у Францыю на заработкі й пазьней не даваў аб сабе ніякай весткі. Гаспадарку мелі яны даволі моцную, бо складалася яна з пары коняй, дзьвюх кароваў і падцёлка, некалькіх авец і сьвіней ды цэлай грамады хатняй птушкі. З пагляду на свой век, ім часамі ўжо было не пад сілы спраўляцца з гэтай гаспадаркай. Аднаго з Грышкавых коняй — Буланчыка ведала ўсё мястэчка, бо ён ня гледзячы на свой даволі паджылы век быў гульлівым, як жарабё ды меў звычку залязаць у шкоду й туды, дзе яго найменш спадзяваліся. Ня было такой загарадзі, выключаючы хіба высокі частакол ці калючы дрот, каб яе ня мог паканаць Булан-

чык. І ніхто апрача самога Грышкі ня мог злавіць яго, калі ён ласаваўся чужым аўсом, канюшынай або нават капустай, якую ён любіў, як дзяўчаты цукеркі.

Але калі Буланчык састарэў, Грышка задумаў прадаць яго пасьля заканчэньня працы на полі, каб не скормліваць надарма сена ўзімку. Ды потым прыйшла яму ў галаву думка, каб за кошт Буланчыка атрымаць сабе дапамогу на час касавіцы й жніва. Парадзіўшыся з Агатай, яны паклікалі да сябе Дарафея й пасьля добрай перакускі нагаварылі яго папрацаваць у іх у «пільніцу» *), з тым, што пазьней яны аддадуць яму Буланчыка. Пасьля доўгіх разважаньняў Дарахвей згадзіўся, аднак засьцярог сабе вольныя ад працы аўторкі й дні калі прыпадалі фэсты. На іншыя сьвяткі й нядзелі Дарахвей ніякай увагі не зьвяртаў.

І трэба прызнаць, што як на ягоную натуру ён працаваў даволі сумленна. Ведама, што ён ня мог выконваць больш складаных сялянскіх працаў, як касьба ці гараньне плугам. Але затое ён насіў ваду й дровы для Агаты, зьбіраў у гародзе зельле, ды сек яго секачом для сьвіней, таксама карміў іх ды выганяў у поле жывёлу і г. д. І з выгляду Дарахвей зусім перамяніўся, бо Агата пашыла яму хоць і зрэбныя, але пафарбаваныя ў альховай кары кашулю й порткі. З ягоных ног зьніклі дзеравяшкі, і на іх месца атрымаў агромныя вайсковыя чаравікі, якія Грышка захаваў яшчэ з Першае сусьветнае вайны. Таксама кожную сыботу ён вадзіў Дарахвея ў местачковую лазьню, а пасьля дазваляў яму пагаліцца сваёй брытвай. Так што натура Дарахвея зьмянілася на лепшую. Ён ужо ня кідаўся ў сварку з тымі, хто яго дражніў, а папросту з першых слоў абазваўшы іх камуністамі і бальшавікамі ішоў па сваіх справах. А ягоныя адносіны да Буланчыка былі папросту расчуляючымі. Трэба толькі было бачыць, як ён хаваючы за падол кашулі, каб не пабачыла Агата, нёс кавалак хлеба, бульбіну або яшчэ штосьці з гародніны, каб пачаставаць свайго падапечнага. Маючы хоць некалькі хвілін вольнага часу чысьціў яго старым згрэблам і мазаў ягоныя капыты дзёгцем, каб не пашчапаліся.

Тымчасам набліжалася восень. На Узьвіжаньне якое прыпадала на аўторак, Дарахвей вырашыў, ня гледзячы на кірмашны дзень у Лужках, лепш падацца на фэст у Цьвеціна, паложанае амаль на самай польска-савецкай мяжы, недалёка ад Дзісны. У гэтым часе Грышка кіруючыся яму самому толькі ведамымі меркаваньнямі, вывеў на Конскі рынак і прадаў на скуру Дзісьненскім жыдам Буланчыка. Відаць ён не хацеў праз усю зіму карміць Буланчыка сенам, які павольна траціў сваю рухавасьць. Што адносіцца ўмовы з Дарахвеем, дык ён хіба лічыў яе жартам, або можа думаў, што атрыманая ім вопратка, абутак і харчаваньне будзе дастатковай аплатай за яго працу. Бог яго ведае, як там было ў запраўднасьці, але факт-фактам, што Дарахвей вяртаючыся з Цьвеціна пабачыў, што жыд едзе конна на ягоным Буланчыку. Што тады адбылося на гасьцінцы не бяруся апавядаць. Ведаю толькі, што хутка ў мясцовы пастарунак прыбег жыд з лямантам, з якога было цяжка штосьці зразумець. Аднак праз якое паўгадзіны паліцыянты зразумелі, што бандыты адабралі ў яго каня. Паліцыя неадкладна вырушыла на месца выпадку й ведама, што ніякіх бандытаў там не знайшла, не знайшла й Буланчыка. Ня трэба дадаваць, што ані вечарам, ані назаўтра Дарахвей ужо не паказаўся ў Грышкавай хаце, і таму найбольшае падазрэньне пала на яго.

Па нейкім часе Дарахвей ўсё-ж зьявіўся ў аўторак дзеля выконваньня сваіх

---

*) Пільніца — час сялянскіх цяжкіх працаў пачынаючы ад касавіцы.

абавязкаў у кірмашны дзень і паліцыя яго тут-жа арыштавала. Праз некалькі дзён усе намаганьні, каб штосьці выпытаць у яго не далі ніякіх вынікаў. Не памаглі нават і таўхялі, бо Дарахвей маўчаў, як вады ў рот набраўшы, што як ведама ня было згоднае з яго натурай. Патрымаўшы яго яшчэ некалькі дзён на хлебе й вадзе яго выпусьцілі прызнаўшы «поўным вар'ятам». А Буланчык тымчасам, як у ваду кануў. Але вось позьняй восеньню некаторыя местачкоўцы заўважылі, што да іх пуняў з канюшынаю хтосьці дабіраецца. Калі-ж пачалася малацьба тое самае было заўважана ў сьціртах, асабліва з аўсом. Суседзі пачалі падазраваць суседзяў, але аднак ніхто ня мог давесьці іншаму віны. Крыху пазьней адзін з рыбаловаў прабіраючыся праз зарасьнікі лазы паміж ракой і напоўразваленым гумном старога Дуньца, якім ужо ад пару год ніхто не карыстаў, пабачыў на зямлі якіясь дзіўныя сьляды. Выглядалі яны нібы хто цягнуў нешта цяжкае ад ракі да гумна. Прайшоўшы па сьлядох ён пабачыў у тым месцы дзе яшчэ захавалася кавалак страхі, абложанага снапамі аўса й ахапкамі канюшыны Буланчыка. Побач яго стаялі вялікія начоўкі з вадой. Вось сьлед гэтых начовак па зямлі й прывёў да схованішча Буланчыка. Справа ў тым, што Дарахвей ня могучы здабыць іншай пасудзіны на ваду, сьцягнуў недзе ў вясковай лазьні начоўкі ў якіх зазвычай мылі нябожчыкаў. Але ня гледзячы на сваю сілу, ён ня здужаў нясьці перад сабой напоўненых у рацэ вадою начовак, і дзеля гэтага цягнуў іх.

Уся справа закончылася даволі шчасьліва: жыд-гандляр коньмі атрымаў сваю ўласнасьць, Дарахвей пазьбег пакараньня будучы прызнаным ненармальным, але найлепш з усіх выйшаў Буланчык, бо ніколі ў жыцьці ён ня еў столькі аўса й канюшыны, як у часе гэтага прымусовага ўвязьненьня. Ён так прыбраў на целе, што жыд пашкадаваў яго забіваць на скуру, а вывеўшы на кірмаш, прадаў яго селяніну з-пад Язна, які яшчэ добрых пару год езьдзіў на ім.

Пасьля гэтага здарэньня Дарахвей лічыў сваім абавязкам кожнага ранку затрымацца перад Грышкавай хатай і абкладаць яго, Агату, і ўсіх іхніх жывых і памёрлых сваякоў «трохпавярховай маскоўскай». Грышка чамусьці на гэта не рэагаваў, але калі гэта ўрэшце надаела суседзям, то зазвычай адзін з іх у большасьці з маладзейшых выходзіў на вуліцу й голасна крычэў: —Тпру! Дарахвей адразу зьніжаў голас, але не пераставаў лаяцца. — Чаго ты расхадзіўся канакрад? — прадаўжаў той. Тады Дарахвей мяняўся на твары й абазваўшы яго, як звыкла камуністам, хуценька зьнікаў.

Бедны Дарахвей зложыў сваю неспакойную галаву адразу-ж пасьля прыходу немцаў. Разам зь іншымі й яго пагналі капаць магілы для забітых чырвонаармейцаў. Калі немец-канваір пачаў крычэць на яго, каб хутчэй працаваў, Дарахвей сваім звычаям вызьверыўся на яго. Той доўга ня думаючы выхапіў пісталет і Дарахвея ня стала.

Міхась Грыдзюшка - «Міхалачка» й Адам Драгун - «Адась» былі неразлучнымі сябрамі ў вочы, але за вочы, казаў той, утапілі-б адзін аднаго ў лыжцы вады. Але гэтая іхняя «нянавісьць» была толькі паказной, бо яна выяўляла афіцыяльныя погляды тых, для каго яны беспасярэдна працавалі. Справа ў тым, што Міхалачка быў царкоўным вартаўніком, а Адась — касьцельным закрыстыянам. І для нікога ня было сакрэтам, што польскія ўлады за пасярэдніцтвам апалячанага р.-каталіцкага духавенства лілі ўсякае балота на «сьхізматыкаў», а абмаскаленыя праваслаўныя сьвятары за ціхай згодай і дазволам тых-жа ўладаў адплачвалі тымсамым «адшчапенцам». Пры гэтым, як адна, так і другая старана старалася даказаць белару-

сам, што рыма-каталіцкая рэлігія — ёсьць «польскай», а праваслаўная — «рускай». Гэта было часткай афіцыяльнай польскай палітыкі «на крэсах».

Зазвычай у нядзелі пасьля Багаслужбаў, Міхалачка хутка прыбіраў у царкве, і пасьля выходзячы на рынак і азіраючыся навокал казаў таму, хто быў да яго ў гэты момант найбліжэй: — Нешта-ж сёньня ня відаць гэтага адшчапенца. Можа ксёндз ужо нарэшце вытурыў яго з касьцёла? — Кажучы гэта, Міхалачка добра ведаў, што й Адасю таксама трэба прыбраць у касьцеле, а пазьней прыйсьці аж з канца Касьцельнай вуліцы, што займала даволі часу. Але ён гаварыў гэта, каб толькі паказаць, як ён «ненавідзіць» Адася. Але здаралася часамі, што й Адась спраўляўся першым, і тады ён абавязкава казаў: — Ну, што-ж гэты «сьхізматык» не мазоліць сёньня добрым людзям вочы? Можа ўжо выцягнуў капыты? — Але пабачыўшы «сьхізматыка», ён амаль што бягом кіраваўся ў ягоную старану й яны ветліва віталіся доўга трасучы адзін аднаму рукі.

Пасьля некалькіх пытаньняў пра здароўе й пра сем'і, у іх пачыналася дыскусія больш-менш такога зьместу: — І пагляджу я на цябе, пане Міхале, — казаў зазвычай Адась, — дык мне аж шкада цябе робіцца. І людзі цябе шануюць і сямейка у цябе паважная, а вось жывеш ты ў сьхізьме. Ці ня ведаеш, што за гэта на тым сьвеце па галоўцы не пагладзяць? А тут, нагэтым сьвеце? Ты-ж сам бачыш, што ўсе важныя асобы, гэта каталікі, — значыцца, польскай веры. Вось і староста й ваявода, й камандант паліцыі, хто яны? Га, скажы!

— Пачакай, пачакай, пане Адаме, і ты таксама ня з простых людзей паходзіш, і мне цябе шкада, — бараніўся Міхалачка. — Ці-ж ты ніколі ня быў у царкве ў Чарневічах і ня бачыў там абраза, дзе чорт абкруціўшы ланцугом цягне ў пекла ўсіх кардыналаў, біскупаў і вялікіх паноў? Напэўна там ёсьць і старосты й каманданты. Гэта нічога, што я «рускай» веры, але такіх, як я, на гэтым абразе няма.

Такая й падобныя да яе дыскусіі вяліся амаль кожную нядзелю й трывалі так па хвілін 15-20, — пасьля чаго адзін з іх казаў: — Так што відаць, бяз паўбутэлькі мы гэтай справы не разьбяром. — Другі пагаджаўся зь ім напаўслове й яны кіраваліся да ведамай ужо Нінкі. Вышаўшы адтуль пасьля, скажам, гадзіны «з гакам», яны чула разьвіталіся й разыходзіліся, каб пачаць гульню ізноў у наступную нядзелю.

Іхняе, хоць зусім малое падабенства натураў было ў тым, што яны ніколі не адмаўляліся ад чаркі, хоць п'янымі іх ніколі ня бачылі. Што-ж адносіцца да вонкавага выгляду ды паводзінаў, дык яны розьніліся. І яшчэ адно падабенства натураў злучала іх, — яны маглі спакойна выслухаць свайго праціўніка, а часамі нават і пагадзіцца з ім, хоць ня на так доўгі час. Розьніла-ж іх тое, што Міхалачка быў больш уважлівы да людзей, заўсёды сьмяяўся й жартаваў, тады, калі Адась наадварот быў сур'ёзны, а часамі нават і суровы, хоць і ў яго прабіваліся ноткі непаўторнага гумару. Але ён найбольш жартаваў сам з сябе, але ніколі не дазволіў рабіць гэта іншым. Напрыклад імя ягонае жонкі было Магдалена, і Адась часамі пад чаркай дазваляў сабе засьпяваць аб ёй наступную прыпеўку:

Магдалена ашалела, ашалела й Тэкля,
Селі разам на мятлу й паляцелі ў пекла...

Але калі гэтую прыпеўку спрабаваў аднаго разу засьпяваць адзін яго добры прыяцель, Адась адным ударам кулака зьбіў яго з ног, і праз даўжэйшы час не гаварыў зь ім.

Рухавы Міхалачка называў усіх здрабнелымі й пяшчотнымі імёнамі: Міколачка,

Ыначка, Валодзечка... і пры гэтым заўсёды прыемна ўсьміхаўся. Здаецца, што ён ужываў здрабнелай формы імёны дзеля таго, каб паказаць, што й ягонае — Міхалачка не паходзіць выключна з прычыны малога ягонага ўзросту. У Міхалачкі была толькі адна, здаецца, мара, каб хоць перад сьмерцю яшчэ раз пазваніць у запраўдныя званы. Як ведама, ў часе 1-ай сусьветнай вайны, царскі ўрад загадаў вывезьці ў глыб Расеі царкоўныя й касьцельныя званы. Так, што меншыя званы, ці інакш кажучы званкі былі ахвяраваныя паасобнымі вернікамі, а заміж вялікага звана Міхалачка папросту ўжываў кавалак тоўстай рэйкі павешанай на званіцы. Запраўдныя званы былі набытыя парафіяй у сярэдзіне 30-ых гадоў, але бедны Міхалачка не дачакаўся іх, бо памёр толькі некалькі тыдняў перад гэтым.

Акрамя аснаўнога занятку — дагляду за чысьцінёй і парадкам у царкве, Міхалачка меў яшчэ й пабочны занятак, — дастаўляў бярозавыя венікі для местачковай лазьні, якімі вельмі любілі парыцца ўсе бяз вынятку местачкоўцы, а таксама мётлы для ўстаноў, крамаў і некаторых багацейшых местачкоўцаў. У сувязі з гэтым сваім заняткам ён часамі пападаў у канфлікты зь лясьнікамі графскіх лясоў, дзе абразаў гальлё маладых бярозак з якіх вырабляў свой тавар. Але гэтыя канфлікты даволі лёгка палагоджваліся ўсё-ж у тэй унівэрсальнай Нінкі, так што, як той казаў «і воўк быў сыты»,. а што да коз, то ня зусім, бо пасьля гэтага ў Міхалачкавай кішэні было на некалькі залатовак менш. Цікава толькі тое, што ў часе гэтых палагоджваньняў дзесьці паблізу знаходзіўся й Адась, так што й яму перападала чарка. З прычыны гэтых канфліктаў, як казала ягоная жонка, зарабляў Міхалачка на веніках і мётлах, «як Заблоцкі на мыле». Але затое наведвальнікі лазьні не маглі нахваліцца ягонымі венікамі, дадаючы, што Міхалачка ведае пару калі іх вязаць, бо венікі ў яго ўдаюцца мяккія й духмяныя. Пакупнікі мётлаў казалі, што Міхалачкавым мётлам няма зносу.

Адась розьніўся ад Міхалачкі ў першую чаргу ўзростам, бо ён быў, як кажуць, вышэй сярэдняга, касьцісты, але шыракаплечы, адным словам добра збудаваны. Меў чорную бязь ніякае сівізны й лысіны чупрыну ня гледзечы на свае 60 з лішкам гадоў. Заўсёды гладка паголены й старанна апрануты ён выглядаў на нейкага шляхціца жыўцом узятага са старонак аповесьцяў Арэшчыхі. Адно толькі шпэціў Адася ягоны нос, на якім была з правага боку загоеная, але даволі вялікая дзірка. Аб гэтым ягоным носе казалі, што ў маладосьці Адась удаваўся да мясцовай прыгажуні Зосі, да якое таксама «смаліў халяўкі» даволі багаты, але стары [illegible] нясусьветны п'яніца й авантурнік Гамулка. Хоць сэрца Зосі было па Адасёвай старане, але яе бацькі, як зрэштаю ўсе бацькі прыгожых дачок лічылі, што яна будзе больш шчасьлівай за багатым Гамулкам. І вось калі Гамулка пасватаўся да яе афіцыяльна, яна пад націскам бацькоў згадзілася. Калі справа прыбліжалася ўжо да вясельля, па мястэчку пачалі хадзіць плёткі, што Зося патаемна спатыкаецца з Адасем. Аднаго разу Гамулка са сваімі сябрамі падпільнавалі іх дзесь у садочку, і ўсёй грамадой накінуліся на Адася манючыся збавіць яго са сьвету. Ня гледзечы на тое, што Адась быў адзін, а іх некалькі, ён справіў ім такі «пачастунак», што двое зь іх па некалькі дзён адлежваліся ў пасьцелях. Пасьля гэтага здарэньня, Зося не хацела нават глядзець на Гамулку, так што ніякія ўгаворы ці пагрозы бацькоў не памагалі. Бачачы, што простай дарогай Гамулка нічога не даб'ецца, ён пусьціўся на хітрыкі. Гамулка запрапанаваў Адасю даволі вялікую суму грошай, каб той толькі адступіў яму Зосю. Але Адась з пагардаю высьмеяў яго. Тады Гамулка распусьціў чуткі, што ён выяжджае дзесьці ў глыб Расеі й дзеля гэтага

ладзіць для ўсёй моладзі вечарыну-разьвітаньне ў карчме. На гэтую вечарыну быў запрошаны таксама й Адась. Пасьля добрай выпіўкі Гамулка пачаў разьвітвацца цалуючыся з усімі, й калі чарга дайшла да Адася, ён як воўк учапіўся зубамі ў ягоны нос.

У хуткім часе пасьля гэтага, калі Адась яшчэ ляжаў у шпіталі са сваім носам, Зося ня могучы зносіць розных насьміханьняў выехала да цёткі ў Адэсу. Праз нейкі час яна там выйшла замуж за старога, але вельмі багатага й бязьдзетнага ўдаўца, які хутка памёр запісаўшы на яе ўсю сваю маёмасьць. Гамулка-ж у часе чарговай піятыцкай авантуры забіў чалавека, быў асуджаны й пайшоў па этапах у Сібір. Адась, хоць із перакушаным носам у хуткім часе ажаніўся з даволі прыстойнай дзяўчынай Магдусяй — былай ксяндзоўскай гаспадыняй, ды хутка пасьля гэтага атрымаў пасаду закрыстыяна.

Калі Міхалачка апрача аснаўнога павінен быў шукаць яшчэ й пабочны занятак, дык Адасю хапала аднаго. Апрача звыклай заплаты за сваю працу, ён атрымоўваў яшчэ дадатковую. Справа ў тым, што апрача сваіх закрыстыянскіх абавязкаў, меў ён яшчэ дадатковую працу выконваючы абавязкі «гэрольда» ў часе рэлігійных працэсіяў, і на багацейшых і больш урачыстых паховінах. Дзеля падобных аказыяў ён апранаў спэцыяльны «кунтуш», нешта падобнае да шырокага, але ня вельмі даўгога, бо сягаючага крыху ніжэй каленаў плашча, з стаячым каўнярам і кароткімі й шырокімі разрэзанымі ў доле рукавамі, абшытага серабрыстымі й залацістымі шнурамі. У правай руцэ ён трымаў нешта падобнае на булаву, якой ужываюць капэльмайстры вайсковых аркестраў, з той толькі розьніцай, што ягоная булава мела большую галаву, вялічыні добрага качана капусты. Яна званіла даволі прыемным звонам, калі Адась патрасаў ёю, каб зьвярнуць на сябе ўвагу. Гэтую сваю прыладу Адась чамусьці называў «болдова» з націскам на другое «о». Ніякія пераконваньні ксяндза, каб ён называў яе булавой ня мелі посьпеху, бо перад ім ён хоць і неахвотна казаў булава, а бяз яго заўсёды болдова.

Трэба было толькі бачыць Адася ў часе гэтых працэсіяў. Зразьвеянымі даволі даўгаватымі, як на тагачасны фасон валасамі й суровай мінай, якой яшчэ большай суровасьці дадаваў пакалечаны й чырвоны з натугі нос, ён насіўся з канца ў канец па вуліцы, ці дарозе зганяючы на бок фурманкі й пешаходаў. Рукавы ягонага кунтуша разьвяваліся як скрыдлы нейкай фантастычнай птушкі, а «болдова» нэрвова патрасаная званіла без перапынку. Апавядалі, што ў часе працэсіі ў Вільню да Войстрай Брамы ён быў затрымаў амаль увесь рух ад чыгуначнай станцыі аж да Войстрай Брамы, і выдаваў загады нават сустрэчным паліцыянтам.

Пасьля сьмерці Міхалачкі аказалася, што Адась толькі ўдаваў нянавісьць да яго за жыцьця, бо пазьней шчыра яго шкадаваў, а нават казаў, што й між схізматыкамі бываюць добрыя людзі, толькі, нажаль, яны без пары паміраюць.

Некалькі месяцаў пазьней і з самім Адасём здарылася вельмі прыкрая справа, якая прынесла яму страту пасады й некалькі месяцаў зьняволеньня. А здарылася вось што: У аднэй з акалічных вёсак добрыя людзі ўтрымоўвалі «на ласкавым хлебе» старую жабрачку Тафілю. Пераходзячы ад хаты да хаты яна мела праз некалькі год такое-сякое харчаваньне й куток, дзе магла пераспаць. Пэўнага дня Тафіля памерла. Вяскоўцы йзноў здабыліся на апошні выдатак для яе й згарусьціўшы якую ўмелі дамавіну, паклалі ў яе нябожчыцу ды прывезьлі ў касьцёл, каб пахаваць яе па-хрысьціянску. Ды ня тут тое было! Ксёндз, між іншым ведамы беларусаед, зажадаў за паховіны пяць злотых. Колькі не прасіліся бедныя людзі,

што яны ўжо й так панесьлі выдаткі ўтрымоўваючы Тафілю перад сьмерцяй (а ў дадатку панёсшы выдаткі на труну й нябошчыцкую вопрату), нічога не памагло. Таксама не памог і апошні ўжо аргумант, што палова зь іх не каталікі, а праваслаўныя. Ксёндз быў няўмольны. І ўканцы раззлаваўшыся пакінуў іх каля ганку клябаніі, сам пайшоў у парк разьлічваючы хіба на тое, што яны пазьней адумаюцца й дадуць яму жаданыя пяць злотых. Тады нечакана ў справу ўмяшаўся Адась і вырашыў, што калі ксёндз ня хоча хаваць бедную жабрачку задарма, дык хіба ня будзе грэхам зрабіць гэта й без яго. Узяўшы з закрыстыі Крыж і сьвянцоную ваду ён накіраваўся ў бок магільніка дзе ўжо была падгатаваная магіла. За ім памаленьку паехала фурманка з дамавінай і пайшло некалькі ўдзельнікаў паховінаў. Тымчасам хтосьці з ксяндзовай службы паведаміў аб гэтым самога ксяндз, які хуценька вярнуўўщыся дадому па тэлефону выклікаў паліцыю. Не пасьпелі яшчэ людзі закапаць добра магілу, як зьявілася паліцыя на месцы паховінаў. Беднага Адася арыштавалі й прытрымаўшы праз пэвен час у турме — судзілі «за сьвентокрадзтво» й пакаралі трыма мосяцамі зьняволеньня, аднак ласкава залічыўшы яму ўжо адседжаны тэрмін. У дадатку, там-жа на судзе ксёндз заявіў, што ня хоча яго бачыць больш у закрыстыі, — адным словам, звольніў яго з працы.

І так бедны Адась на старыя гады застаўся бяз улюбёнай пасады й на поўным утрыманьні сыноў, між іншым ведамых на ўсю акругу шаўцоў, якія для бацькі не шкадавалі часамі й на паўлітра. Але гэта ўжо было зусім ня тое, як калісьці ім самым зробленыя грошы. Зпачатку Адась быў прыгноблены сваім няшчасьцем, але з часам нават сам пачаў паджартоўваць зь яго кажучы: — «Усяму гэтаму прычына мая адукацыя. Бо каб я быў такі цёмны, як нябожчык Міхалачка й не чапаў лаціны, дык магчыма й судзьдзя быў-бы для мяне больш ласкавы. А я, бачыце, прызнаўся яму, што пры канцы паховін я прамовіў да прысутных па-лаціне: — «братэвус і сястрэвус, вось мы й закапэвус бабэвус Тафілевус у зямлевус».

Іншае, і ўжо апошняе ў ягоным жыцьці няшчасьце спаткала яго ўжо пасьля прыходу Саветаў, а дакладней у часе «выбараў». Наслухаўшыся гутарак аб свабодных і тайных выбарах, а ў дадатак паўгадзінкі перад гэтым кульнуўшы для адвагі добрую чарку, Адась зайшоў у кабінку, што ўжо лічылася само-сабою зьнявагаю, ды павыкрэсьліваў, як пазьней сам казаў, «к чортавай матары» ўсіх кандыдатаў, а ўпісаў толькі сваё ймя й прозьвішча. Назаўтра Адася арыштавалі й выкалаціўшы апошняе старыкоўскае здароўе выпусьцілі толькі перад вайною. Зьнеахочаны да жыцьця й людзей ён хутка памёр.

На гэтым можна закончыць мае ўспаміны пра людзей непасрэдна зьвязаных з Рынкам і перайсьці да маіх уласных успамінаў аб ім.

## МАЕ АСАБІСТЫЯ УСПАМІНЫ АБ РЫНКУ

Гэтых успамінаў, асабліва з часоў майго дзяцінства й юнацкіх год, засталося ў маёй памяці даволі шмат, і яны такія выразныя, што здаецца апісаныя ў іх падзеі адбываліся толькі ўчора. Прыпамінаецца Царква, калядныя ды асабліва вялікодныя Багаслужбы, калі ў часе Хрэснага ходу пушчаліся ракеты й мясцовы «артылярыст» — Ігнат Дунец страляў ня горш, як з сапраўднае гарматы, з так званага «мажджэру», кавалка даволі тоўстай сталёвай трубы залютаванай з аднаго канца ды прыкаванай тоўстымі абручамі да дубовае калоды. У гэты «мажджэр» Ігнат засыпаў каля фунта пораху забіваючы яго дубовым чопам ды страляў пры-

кладаючы распалены на вогнішчы дрот да адумысловай дзюрачкі з боку трубы.

Памятаю як мой сусед Аатон Вяршылоўскі па клічцы «пундэт», між іншым вялікі задзірака, закладаўся на любую цану, што ён апрануўшы кажух і паверх яго бурку сядзе на гэты чоп і пасьля выстралу яму нічога не станецца. Калі аднак праз колькі год ахвотнікаў да закладу не знайшлося, Антон аднаго разу й запраўды кінуўся да «мажджэру» якраз у той мамэнт калі Дунец прыкладаў да яго распалены дрот. Ад сьмерці Антона выратаваў іншы задзірака, але разумнейшы ды сапраўдны асілак Стась Хабрацкі, які як кацянё адкінуў Антона ад «мажджэру».

А колькі ўцехі прыносіла званеньне ў царкоўныя званы калі паводля звычаю на першы дзень Вялікадня мог званіць хто толькі хацеў і колькі хацеў. Ведама, што ў першых гадох, калі й я прымаў у гэтым удзел, мы званілі ў Міхалачкаву рэйку, а ў пазьнейшых гадох і ў сапраўдныя званы. Часамі пасьля гэтага званеньня ўсе званары мелі пазакладаныя вушы й ня чулі, што да іх гаворыцца. А «хрыстосваньне» са знаёмымі, або нават і зь незнаёмымі дзяўчатамі, якія пасьля Хрэснага ходу нібы ненарокам ня йшлі адразу ў царкву, але яшчэ праз пэўны час табункамі снавалі навакол яе.

А школа! Яна-ж таксама стаяла пры рынку ■ зь яе засталося таксама нямала ўспамінаў. Ніхто не запярэчыць, што якраз добрыя або благія ўспаміны ў жыцьці падрастаючага чалавека кідае ў першую чаргу пачатковая школа, і дзеля гэтага я прысьвячу гэтай школе асобны разьдзел. Цяпер-жа ўспомню толькі аб некаторых даволі нявінных жартах і дурасьцях якіх мы 10-12 гадовыя або й крыху старэйшыя падшыванцы дапускаліся будучы вучнямі якраз гэтае школы.

Як сёньня памятаю як мы пералазілі праз царкоўную мураваную агарожу й кажнага аўторку, калі быў сонечны дзень, пры помачы кавалка люстэрка пускалі «зайчыкаў» у вочы вельмі хванабэрыстага паляка-вэтэрынара. Абавязкам гэтага панка было ў кірмашныя дні сядзець у спэцыяльна дзеля гэтага пабудаванай будцы пры ўезьдзе на Конскі рынак і правяраць каб туды ня ўводзілі й ня ўвозілі хворай жывёлы ды браць спэцыяльную аплату. Здаецца, гэтая аплата ■ была адзінай прычынай чаму ён тырчэў там кажны аўторак. Уся ягоная праверка заключалася ў тым, што калі хтосьці падводзіў, ці падвозіў да будкі якуюсь жывёліну, дык гэты панок сьпярша высоўваў у маленькае ваконца руку па грошы ды атрымаўшы іх крычэў: — «вшыстко в пожондку, настэмпны!». Дык вось злавіўшы ў люстэрка сонечны прамень, мы праз нейкі час наводзілі яго стараючыся папасьці якраз у ваконца. Калі-ж у яго засягу аказваўся круглы як месяц у поўні твар вэтэрынара, дык затрымоўвалі гэты прамень на ім. Панок сьпярша маргаў вачыма й моршчыў нос нібы ў яго ўляцела муха, ды пасьля дагадаўшыся ў чым справа, выскакваў з будкі ■ так хуценька, як толькі дазваляла яму яго 100 кіляграмовая з гакам вага пёрся да царкоўнай брамы. Ён заўсёды спадзяваўся, штомы будзем уцякаць якраз праз гэтую браму. Ад хуткага бегу ў яго спадала з чырвонага й доўгага як гурок носу ягонае пэнснэ *) й цяляпалася на круглым жываце на чорнай стужцы. Аднак дабегшы да брамы ён раптоўна затрымоўваўся й пашарыўшы каля яе рукой крычэў дзікім голасам — по-лі-і-іцыя! Справа ў тым, што мы прадбачыўшы загадзя стратэгію вэтэрынара закручвалі кавалкам дроту клямку ад брамы. Не чакаючы пакуль прыбудзе паліцыя мы пералязалі праз мур на школьны панадворак і зьмеш-

*) Пэнснэ — акуляры бяз рамак, якія трымаліся толькі на носе й дзеля бясьпекі прывязваліся на спэцыяльнай стужцы да кляпы.

валіся з натоўпам гуляючых там на «вялікім перапынку» сяброў. Карыстаючы з таго, што панок яшчэ пэўны час ня мог прыйсьці да сябе, іншы больш кемлівы селянін праскокваў праз браму бяз ніякае аплаты са сваім парасём або авечкай.

На гэты-жа Конскім рынку тыя з нас хто належыў да рыбаловаў абразалі коням хвасты, з валосься якіх выраблялі жылкі да вудаў. Гэтыя выпады не заўсёды канчаліся ўдачай, бо часамі ўласьнікі коняй зарганізаваўшы калектыўную аблаву на зладзеяў, злавіўшы аднаго ці больш цягнулі на пастарунак частуючы па дарозе... не падумайце, што грушамі-дзічкамі. З пастарунку іх забіралі ў міжчасе павядомленыя бацькі й далажыўшы таксама ад сябе якогасьці «гасьцінца» па канвоем вялі дамоў. Але часамі ўсё гэта канчалася й больш трагічна: напрыклад майму сябру па школьнай лаўцы Віктару Хралу «маскаль», як у нас называлі старавераў, рассек пугай-дратаванкай шчаку й сьлед ад гэтага застаўся яму на доўгія гады.

Кірмішныя дні на рынку былі таксама свайго роду разрыўкай для мясцовай і акалічнай моладзі, асабліва ў зімовую пару, калі ніхто ня быў асабліва заняты. Тады цэлыя чэргі хлапцоў і дзяўчат хадзілі адна за другой навокал рынку. У часе гэтых паходаў хутка завязваліся знаёмствы й часта можна было бачыць як некаторыя знайшоўшы сабе пару аддзяляліся ад іншых ды прадаўжалі свой шлях ужо асобна, або нават заходзілі ў цукерню Фукса, дзе кавалер лічыў сваім гонарам пачаставаць паненку цестачкам, кавалкам халвы або й шакалядам.

Пры рынку на школьным пляцы ў канцы 30-га году мясцовая адміністрацыя пабудавала Народны Дом, званы папольску — Дом Людовы. І гэты Народны Дом заставіў мне пэўныя ўспаміны, хоць да прыемных іх залічыць трудна. Адбываліся ў гэтым Доме пастаноўкі й танцы ладжаныя рознымі арганізацыямі, ды таксама два разы ў тыдзень прыяжджала з Глыбокага кіно. Наведваць-жа гэтыя ймпрэзы я меў змогу вельмі рэдка, бо ў кішэні звычайна апрача алавіка, некалькіх недакуркаў ды часамі й дзіркі ня было боль нічога.

## ШКОЛА

У Лужках за царскіх часоў былі дзьве пачатковыя школы: Царкоўна-прыхадзкая 3-ох клясавая й 4-ох клясавае Народнае Вучылішча. Я распачаў сваю адукацыю калі мне толькі скончылася шэсьць год і, здаецца, з гэтай прычыны маці запісала мяне ў Царкоўна-прыхадзкую. З гэтай школы я вынес няшмат успамінаў. Памятаю толькі, што настаўніца была вельмі высокага росту (а можа мне гэта толькі выдавалася), мела сівыя валасы й сына Серафіма якога мы ўсе баяліся, бо ён меў звычку круціць нас за вушы ці насы дзе-б толькі нас не спатыкаў. І яшчэ памятаю, што настаўніцу мы мусілі называць «госпожа ўчыцельніца».

У тым-жа годзе ў Расеі пачалася «лютаўская рэвалюцыя», і хоць яна, здаецца, не павінна была мець вялікага ўплыву на нашу школу, аднак да канца навучальнага году мы больш бывалі дома як у школе. Увосені таго-ж году прыйшла другая рэвалюцыя — кастрычніцкая, ці як у нас казалі «слабода». Тады нашая Царкоўна-прыхадзкая школа закончыла сваё йснаваньне, а ўсе вучні яе аўтаматычна сталіся вучнямі Народнага Вучылішча. Вялікіх зьменаў гэта не прынесла, апрача таго, што цяпер настаўніцу мы павінны былі называць Варвара Юльянаўна, а двух настаўнікаў — Нікалай Нікалаевіч і Пётр Семёнавіч. Што датычыцца настаўніцы дык мы меншакі яшчэ даўжэйшы час пасьля слова Юльянаўна дадавалі яшчэ й «госпожа», што яе даволі гневала.

Некалькі тыдняў пасьля нашага пераходу ў Народнае Вучылішча са мною здаўырся нешчасьлівы выпадак. Коўзаючыся на лёдзе я не паддаваўся старэйшым хлапцам і адзін зь іх раззлаваны тым, што «такая малая жаба» хоча зраўняцца зь імі, стукнуў мяне ў нагу сваім падкаваным ботам. Спачатку выдавалася што гэта нічога паважнага, і я нават ня прызнаўся аб гэтым дома. Штопраўда на гэта была пэўная прычына. Я сам быў даволі задзірлівым і ніколі ня любіў уступаць з дарогі іншым, хоць і дужэйшым ад мяне. Таму, калі я скардзіўся дома, што мяне пакрыўдзілі, маці са свайго боку дакладала яшчэ больш з настаўленьнем: «сам ня лезь, дык і цябе ніхто ня скрыўдзіць». Праз некалькі дзён са мною зрабілася горш, а пазьней цяжкая хвароба нагі прыкавала мяне да ложка на пару добрых год. Вось з гэтае прычыны мая расейская адукацыя скончылася таксама без пары, як і пачалася.

У міжчасе школа была пераіменавана на беларускую, але яна праіснавала з перапынкамі толькі некалькі месяцаў. Калі-ж пасьля заканчэньня польска-савецкай вайны палякі на стала ўмацаваліся ў нас, дык школа была пераіменаваная на польскую, але беларуская мова як прадмет была застаўлена на цэлага паўгода (ў пазьнейшх часах за ўжываньне беларускае мовы нават на перапынках пачалі караць).

Сёньня, больш як паўвеку пазьней ад тых часоў, мімаволі паўстае пытаньне: — чаму ў нашых ваколіцах палянізацыя была шмат вастрэйшай, як у іншых частах акупаванай Беларусі? Можна гэта тлумачыць хіба толькі блізкасьцю савецкае мяжы й абавай польскіх акупантаў, што пад уплывам савецкае прапаганды аб БССР, насельніцта будзе выступаць больш актыўна супраць польскай палітыкі.. Гэтай палянізацыі, а дакладней апалячваньню дапамагалі зь нядрэннымі вынікамі тупаголовыя, апалячаныя ўжо раней мясцовыя р.-каталіцкія духоўнікі а таксама пазьней насыланыя з карэннай Польшчы з тэй-жа мэтай шавіністы-ксяндзы. Ім выдатна дапамагаў у гэтым КОП (Корпус ахароны пагранічча). Трэба ведаць, што падафіцэры гэтых вайсковых частак былі ўсімі спосабамі заахвочваныя ўладамі да жанімстваў з мясцовымі дзяўчатамі-каталічкамі, каб пазьней цэлыя сем'і пад уплывам гэтых зяцёў пачалі лічыць сябе палякамі.

Маю навуку ўжо з чаргі ў польскай школе я пачаў толькі ў 1922-23 навучальным годзе з вышэй успоненых прычынаў мае хваробы. Таму, што я ўвесь час вучыўся ад сваіх сясьцёр, якія пачалі наведваць школу ад самага пачатку, мяне адразу прынялі ў 3-ую клясу. Ня трэба й казаць, што першыя месяцы ў польскай школе былі для мяне вельмі цяжкімі, бо хоць я ўжо нядрэнна чытаў і трохі пісаў папольску, але з гутаркай былі ў мяне непаладкі ды яшчэ й не абы якія. Колькі насьмешак ды нават і караў я перанёс ад настаўнікаў з прычыны майго «драўлянага» языка, сам Бог толькі ведае. Гледзячы на настаўнікаў, насьміхаліся зь мяне й мае сябры прыплятаючы яшчэ да гэтае мовы й маё калецтва. І хоць гэтае калецтва не перашкаджала мне ў забавах, а нават коўзаньню на «лужыне», аднак я быў не такі як іншыя, бо хадзіў апіраючыся на кастылі.

далей будзе

Уладзімер Глыбінны

# ПАД ЛЕБЯДЗІНЫМ ЗНАКАМ

Аповесьць пра Максіма Багдановіча

## 1. ТАМ, ДЗЕ ПЛЫВЕ ВЯЛЬЛЯ

працяг

Вацлаў з Максімам хутка выйшлі на Вострабрамскую вуліцу і ўкленчылі перад вобразам Сьвятой Маткі. Тады-ж Максім больш дэталёва агледзеў пагоню на версе брамы. Ён заўважыў, што зьмешчаную ў прадаўгаватае кола пагоню з двух бакоў падтрымваюць крылатыя коні, узьнятыя дыбам. А далей па абодвы бакі — эмблемы брамы з стольлю і дахам. І ўсё разам на падстрэшшы вылеплена на моцнай цэмэнтовай гладкай аснове. Коньнік стрымгалоў імчыцца на Захад з прыўзьнятым напагатоў мячом. Левай рукою ён трымае шчыт, абапёрты на гуньку, што пакрывае каня.

Максім адчуваў, гледзячы на пагоню, што недзе на сподзе ягонай душы нараджаюцца словы вершу, якімі ён уславіць гэтую дзяржаўную эмблему. "Бійце ў сэрцы іх — бійце мячамі, не давайце чужынцамі быць!" — прагучала й завалодала пачуцьцём маладога паэты. Але Вацлаў прапанаваў ісьці далей, і неяк тыя словы адыйшлі ў падсьведамасьць, каб там, захаваўшыся, адгукнуцца праз гады.
Вацлаў сумысна павёў Максіма напачатку бакавымі вулкамі, дарма, што яны рабілі дарогу даўжэйшай. Вузкія, з каменнымі ходнікамі, трох-чатырох паверхавымі старымі камяніцамі, з бальконччыкамі ды паадчынянымі вокнамі, вулкі тыя рабілі ўражаньне застою й лагоднай цішыні. Дзе-нідзе ўбачыш чалавека, што павольна пераступае цень ад перакінутых ад аднаго боку вулкі на другі бок аркамі панад першым паверхам. У цішыні былі чуваць крокі, якія каменным рэхам несьліся ўздоўж даўгой вулкі. Зрэдку прабягалі шпарчэйшым крокам у чорных сутанах манахі ці манашкі. Часам каля дзьвярэй кідаліся ў вочы абдзёртыя шыльды шаўцоў з малюнкам капыла ды камашаў, або краўца з абразом гарнітура. Здавалася, што ўсё жыцьцё ў той час запынілася й ні дае ніякіх прыкметаў рухавасьці. І тады ў Максімавай галаве ўзьнікаў вобраз старажытнай Вільні, калі на загад бурмістра зачынялі вокны, гасілі агні, а па вулцы праходзіла варта. І яму, чамусьці, уяўляўся чорны кажан, што шнуруе ля вежы, непадуладны ніякаму ладу.

Незаўважана зьведвальнікі выйшлі да будынку гарадзкой управы з яе клясычнымі калёнамі. Яна зьнянацку паказалася з-завулкаў сваёй нязвычнай веліччу, а за ёю па-над дахамі дамоў красаваўся велічны купал Казімірскага касьцёлу, пабудаванага яшчэ Лявонам Сапегам у 1604-1615 гг. Глянуўшы на гэтыя будовы, зьведвальнікі сьціраваліся ўжо ажыўленымі вуліцамі да мэты свайго падарожжа —

Базыльянскіх муроў, ад якіх сьведама дасюль ухіляліся. Тыя зьявіліся перад імі неяк адразу сваёй знанай Брамай.

Гэтая Брама вылучалася пышным узорам барокавага кшталту. Вацлаў зьвярнуў Максімаву ўвагу на своеасаблівыя, адно Беларусі свомыя, адмены гэтага барока. Максім глядзеў і рабіўся больш задумёным. Калі яны пазьней аглядалі Бэрнардынскі касьцёл, што ўвабраў у сябе ўсе традыцыі беларускае архітэктуры й зьяўляўся найбольш яркім тыпам беларускае готыкі, госьцю было асабліва цікавым даведацца пра канструкцыю беларускага-гатыцкага замку з чатырмя вежамі на рагох.

Недалёка ад Бэрнардынаў увагу паэты прыцягнуў касьцёл Сьвятой Ганны. Ягоныя стромкія гатычныя вежы ўразілі паэтаву душу напамінам пра калóс, што лёгка ўзьнёсься заломам у аб'ём нябёсаў, уваткнуўшы сваё вастрыё ў вышынь неба. Ён глядзеў доўга на іх канцы ў сіняве, і яму здалося, што перад адлётам увысь, перад тым, як патануць у ёй, яны разьвітваюцца з зямлёю. Пекны хорам, яму здавалася, пракладае шлях у блакіце й тым дае змогу адпачыць зморанай душы, "загаіць на сэрцы раны, забыць пра долі горкі глум", ды адкідае "сьцені цяжкіх дум". І ён у думках зваў "прыйсьці да касьцёла Сьвятой Ганны".

Вацлаў адарваў яго ад гэтае рамантыкі, падаўшы знак ісьці далей. Але скрозь у дарозе Максім заставаўся паланёным вобразам гэтага выдатнага архітэктурнага збудаваньня. Вонкава ён паслухмяна паддаваўся волі Вацлава й пасоўваўся крок за крокам за сваім правадыром, а душа ніяк не магла адкараскацца ад наплыву думак і пачуцьцяў, зрушаных вялікасьцяй і зграбнасьцяй гэтага ўзьнесенага да нябёсаў храму. Праз усю дарогу Максімавы вусны незаўважна шапталі словы, зь якіх паступова складаўся пявучы верш у славу няўмiручага дойлідзтва. Так нарадзіўся яшчэ адзін паэтычны шэдэўр, што ўвабраў у сябе высокі густ, пачуцьцё прыгажосьці й разважлівую чульлівасьць.

Каб загаіць на сэрцы раны,
Забыць пра долі цяжкі глум,
Прыйдзіце да касьцёлу Ганны!
Там зьнікнуць сьцені цяжкіх дум.

Як лёгка дагары, як красна
Узносіць вежы ён свае!
Іх вырыс стройны ў небе ясна
Заломам дзіўным устае.

А гастрыні іх так высока,
Так тонка ў вышу неба тнуць,
Што міг — і ўжо, здаецца воку,
Яны ў паветры паплывуць.

Як быццам з грубаю зямлёю
Растаўся стройны, лёгкі гмах

І вось, чаруючы красою,
Ўступае на блакітны шлях.

Глядзіш — і ціхнуць сэрца раны,
І забываеш долі глум.
Прыйдзеце да касьцёлу Ганны!
Там зьнікне горыч цяжкіх дум.

Але як ні таіўся Максім са сваім новым вершам пра касьцёл Сьвятой Ганны, Вацлаў адразу заўважыў, што паэта знаходзіцца ў асаблівым трансе й быў надзвычайна натхнёны вялікасьцяй толькі што бачанага касьцёлу.

— Гэты старажытны касьцёл варты самага ўзьнёслага паэтычнага натхненьня, — спакойна сказаў Вацлаў Максіму. — Вакол яго існуе нямала баек і легендаў, віленчукі — народ ня гэтакі ўжо абдораны да творчага ўяўленьня — тут пераўзышлі самых сябе. У гонары за гэтую красу яны апавядаюць, што сам Напалеон, калі ехаў праз Вільню на Расею, захапіўся касьцёлам Сьвятой Ганны й будучы зачараваным ягонай вынятковасьцяй, нібыта выказаўся: "Каб мог, як найлепшую здабычу на далонях вывез-бы касьцёл Сьв. Ганны з Вільні ў Парыж."

Максім удзячным паглядам акінуў Вацлава. У ягоных зрэнках засьвяцілася радасьць з прычыны таго, што не ён адзіны высока ацаніў гэтае дзіва дойлідзкага майстэрства, што ёсьць ці былі людзі не абы якой вагі, якія гэтак-жа аддалі даніну гэтаму цуду. Ён не ўстрымаўся, каб ні зачытаць свой вершаваны экспромт свайму павадыру. Той пільна прыслухоўваўся да кажнага слова паэты, што натхнённа зьлятала зь ягоных вуснаў і ўлівалася ў душу, як музычны такт. Вацлаў быў гэтак уражаны пачутым, што некаторы час маўчаў пасьля заканчэньня паэтавай дэклямацыі, а затым ухапіў Максіма за абедзьве рукі й, спыніўшыся на тратуары, горача трос іх, прыгаварваючы:

— Дал бог, таленавіта, выключна таленавіта! А думка пра гаючую ўзьнёсласьць у вышыню, падмацаваная вобразамі вастрыя, што паплыве ў паветры, гмаха, што чаруючы красою, уступае на блакітны шлях, тут выяўлена сапраўды паэтычна. Пасьля такога вершу гэтак і хочацца зноў прыйсьці да гэтага хорама, каб спачыць душой і адкараскацца ад "горачы цяжкіх дум". Верыцца, што сузіраньне яго вылечвае раны сэрца. Віншую з такой нечаканай тут на дарозе, на Віленскіх вуліцах, творчай удачай.

Максім нічога не знайшоў адказаць на гэтую тыраду й адно абмежаваўся шчырым, ледзь чутным "дзякуй!"

Зьведвальнікі пайшлі далей. У паўночным напрамку адтуль ужо добра быў бачны замак на Гэдымінавым узвышшы. Направа ад яго на Трыкрыжавым узвышшы ў сівым тумане вырысоўваліся тры белыя крыжы, што ўшаноўвалі памяць манахаў-ахвяраў за часоў Альгерда ў 14 ст. Адылі яны туды не падаліся. Іх яшчэ чакалі знаная барокавая царква Пётры й Паўла, касьцёл Сьвятога Яна, Сьвятога

Міхала, прыгожая архітэктура касьцёлу Сьвятой Тэрэзы, Сьвятой Кацярыны. Ды й у сярэдзіну трэба было заглянуць, каб налюбавацца майстэрствам старых дойлідаў, разьбяроў ды маляроў. А дзень ужо канчаўся. Трэба было паступова кіравацца ў бок дому. Вярнуліся яны перад шэрай гадзінай. Папалуднаваўшы ў знаёмай ужо гасподзе Вацлава, Максім падаўся ў свой пакой і зноў зваліўся на канапу чуць жывым. За хвіліну зноў яго паглынула нябыцьцё.

8.

Прачнуўся ён, калі ўжо панавала цемра. Ён адразу ўспомніў абяцаньне быць у Вацлава ўвечары. Выйшаў хуценька ў рэдакцыйны пакой, дзе ўжо рэдактар, як звычайна, сядзеў за праўкай матар'ялаў для газэты. За працай, Вацлаў не заўважыў, як нясьмела ўвайшоў у пакой паэта.

— Доры вечар, пане Вацлаве!

— Добрага здароўя, пане Максіме! — Прагуляў дзень, дык мушу наганяць. Але нічога, ужо значна нагнаў упушчанае. А вы гэта ўжо апошнюю ноч тут, перад Ракуцёўшчынай. Заўтра ўжо на новым мейсцы пабачыце нашу Беларусь на самым сподзе яе. Пазнаеце наш народ у працы й адпачынку, хоць адпачываць яму ня вельмі прыходз'цца. Уласаў казаў, што гэта невялікая вёсачка з крывой вулкай і саламянымі стрэхамі хатаў абапал. Але там вы пабачыце тых, дзеля дабра якіх мы працуем. Жывую мову пачуеце, шмат зь яе пераняць зможаце. А галоўнае, адчуеце жывую душу народу.

— О так, я ўжо пачынаю трымцець ад аднае думкі пабываць там. Сэрца калоціцца ад радасьці ўсьведамленьня пабыўкі са сваім народам.

— Разумею. Гэта-ж будзе першым спатканьнем з народнай бацькаўшчынай ў вашым жыцьці. Я й сам трымцеў-бы ня менш, каб прышлося пабачыць родныя мясьціны. А тут яшчэ ўпяршыню ў жыцьці. Але прыглядзьцеся народу, паглядзеце чым ён жыве. Пасьля дасьце нам справаздачу: нам-жа трэба ведаць народ таксама, асабліва паводля ўражаньняў новага чалавека, што вывучаў гэты народ з адлегласьці, а цяпер пабачыць яго собскімі вачыма. Праўда, на пачатку ён будзе асьцерагацца вас, як кажнага паніча. Але абвыкнецца й пасьмялее ў гаворках з вамі. Асабліва, як пабачыць сумленную спробу гаварыць зь ім у яго мове. А вы зь ім не саромцеся, гаварыце, як можаце, калі трэба папраўляйцеся, але каб было пабеларуску. Народ, хоць і ні адразу, ацэніць вашыя стараньні ды адчыніць нарэшце сваю душу. Памагай вам, Бог.

Максім слухаў з задаваленьнем настаўленьні старэйшага Вацлава й ківаў яму ў згоду. Па часе яны пайшлі ізноў у Вацлаву гасподу, каб павячэраць. Ізноў расьселіся на крэслах вакол стала з самаварам, а Ластоўшчыха падлівала ўсім гарачую гарбату ў кубкі. Дзяўчатак ужо ня было тут, за позьнім часам яны ўжо спачывалі ў суседнім пакоі, бо-ж набегаліся за дзень на панадворку. Ніхто не перапыняў

гутаркі, і яна павялася й цяпер аб беларускім адраджэньні. Жонка Ластоўскага прымала чынны ўдзел у гутарцы й часам талкова падказвала нейкую важную думку. Максім сам пачаў гаварыць, як яго ўразіла старадаўняя Вільня. Яму асабліва да спадобы было тое, што Вільня ў старыя часы была набліжана да Заходняй Эўропы й, як горад аснаваны на падставах магдэбурскага права, асабліва прычыніўся да развою беларускае культуры, уводзячы яе ў абыходак заходняэўрапэйскага жыцьця. Гэта рабіла беларускую культуру фарпостам Заходняй Эўропы на ўсходзе. Вільня сьведчыць, што ў стварэньні беларускай культуры ўдзельнічала ні толькі вёска, але таксама гандлёвы й адміністрацыйны горад эўрапэйскага тыпу. Не прыходзіцца дзівіцца, што духовы ўздым часоў Адраджэньня, захапіўшы Заходнюю Эўропу, прайшоўся й па Беларусі, па Вільні й Полацку. Невыпадкова Скарына ўжо з 1525 г. ў Вільні выдае т. зв. "бітыя" кнігі. Духовае жыцьцё Вільні 16-га ст. напаўняе кажнага з нас гонарам. Яно высоўвала Беларусь на адно зь першых мейсцаў сярод культурнага славянства й ставіла яе куды вышэй тагачаснае маскоўшчыны, якая ў культурным сэнсе сама харчавалася духовымі сокамі Беларусі.

— Шкада, што пасьля спыненьня друкарскае дзейнасьці Франьцішка Скарыны ў Вільні пасьля таго, як згарэла яго друкарня, доўга ня было тут новых беларускіх друкаў, — сказала пані Ластоўская й тым паказала сваю абазнанасьць з мінулым свайго места. Але ейны муж тут-жа запярэчыў.

— Дарма, праз колькі гадоў распачалі сваю плённую дзейнасьць браты Мамонічы. Яны-ж выдрукавалі ў 1588 годзе першае друкаванае выданьне Літоўскага Статуту, збору законаў у нашай мове. Сам Леў Сапега апекаваўся гэтым друкам. А ён-жа быў нашым вялікім дзяржаўным дзеячом. Ня прыходзіцца дзівіцца, што тады наша культура знаходзілася на найвышшым узроўні, у "залатым веку".

Яны яшчэ доўга гаварылі на гэтыя тэмы. Ажно ўжо даволі позна забег сюды Антон Луцкевіч. Ён прыйшоў разьвітацца з Максімам і сказаць яму, што дзядзька Вінцэнты ўжо ведае аб ягоным прыезьдзе з тэлеграмы, і што той вышле павозку, каб прывезьці яго з Краснага ў Ракуцёўшчыну. Хоць гэта й недалёка ад Краснага, але незнаёмаму чалавеку з клункам ісьці не выпадае. Заадно ён перадаў найлепшыя павіншаваньні ад свайго брата Івана, які жадае маладому паэту добра адпачыць на вёсцы пасьля гімназыйных экзаменаў, а разам з гэтым лепей пазнаць беларускі народ, каб выдатна служыць ягонаму вызваленьню й адраджэньню ягонай культуры.

Антон Луцкевіч паціснуў на разьвітаньне руку Максіму й кінуўшы ўсім "Дабранач!" выйшаў.

— Вось добра, што падводу прышлюць, — прамовіў Вацлаў. — Ня прыйдзецца распытваць у людзей, адразу прыедзеце да дзядзькі Вінцэнтага. А ён чалавек рахманы й добры, дарма, што зь першага пагляду выглядае пахмурым. Ён стрыманы на словы, але шырокі на ласку. Працаўнікі ў ягоным фальварку ўсе мяйсцовыя сялянскія

хлопцы, гавораць толькі па-крывіцку, — дзяўчаты-служкі добра сьпяваюць. Калі зацягнуць вясьнянку або жніўную, дык так-бы, здаецца, век слухаў-бы. А вакол — раздольле зялёных палёў і лясоў.

І Ластоўскі пачаў апавядаць пра родныя мясьціны, дзе кажны куточак тоіць у сабе таямніцу красы. Ужо жонка пакінула іх адных ды пайшла аддыхаць у другую палову гасподы. А яны ўсё сядзелі, чуць ні да відна й ня было змогі разьвітацца двум зродненым душам, што пілі асалоду раптоўна адчутага сяброўскага яднаньня. Ні розьніца веку, ні сямейны стан, ні паходжаньне, ні адменнасьць у адукацыі ні рабілі тут перашкоды гэтай братэрскай лучнасьці. Разьвіталіся, калі пачынала сьвітаць.

## 2. ЗА ПЛЫНЬНЮ УШЫ, ЗА ХВАЛІСТЫМІ ЎЗГОРКАМІ

### 1

А дзесятай гадзіне раніцы каля вакна вагону ўжо сядзеў малады чалавек у добрым гімназыйным гарнітуры з высокім каўняром і зашпіленым бортам пінжака. Ён вылучаўся сярод іншых зграбнасьцяй свае фігуры й прыгажосьцяй юнацкага твару. Каштанавыя валасы былі прыгожа падстрыжаныя па баках і, закінутыя наверх, яны прыдавалі ілбу й вачам выгляд задуменнасьці. Ягоны пагляд быў засяроджаны на чымсьці, што займала цалкам ягоную ўвагу. Толькі што адыйшоў Вацлаў з жонкай, якія праводзілі яго ў дарогу. Ён думаў пра іх ахвярную службу свайму народу. Тым часам пад гэтае ўтрапеньне цягнік павольна пачаў рухацца й неўзабаве пакінуў Віленскі вакзал. Пад мерны грукат калёсаў Максім стаў нават падрэмваць. Дзьве бяссонныя ночы бралі сваё. Ён і не заўважыў колькі спынкаў праехаў, ачнуўся толькі, калі кандуктар моцна гукнуў:

— Смаргонь! Наступны спынак — Маладэчна!

У Смаргоні шмат падарожнікаў выйшла, а на іх мейсца прыйшлі новыя пасажыры. Яны ажыўлена гутарылі на чысьцюсенькай беларускай мове й тым лашчылі вуха Максіма. Ён сквапна слухаў іх размову й неўзабаве было абвешчана спыненьне ў Маладэчне, а наступным спынкам было Краснае. Тут Максім зьняў нават свой чамаданчык з паліцы й паставіў яго каля ног, каб быць гатовым да выхаду. Праз прыадчыненае вакно заўважыў зьменлівыя краявіды ўзгорыстахвалістых абшараў, раськідзістых лясоў, палёў з маладою руньню ды зялёных паплавоў.

Незадоўга цягнік запыніўся каля невялікай будыніны, мала падобнай на станцыю, каб ня шыльда пад дахам: **Уша-Краснае.**

Толькі лічаныя адзінкі пачалі тут высядаць. Выйшаў і наш падарожны з чамаданчыкам у руцэ. Тыя людзі, што тут выселі, неяк адразу пазьнікалі. Прайшоўшы на прывакзальны пляц Максім прыпыніўся каля свае ношы. Але не пасьпеў ён агледзецца як належыць, да яго падыйшоў чалавек з пугай у руцэ й запытаўся, ці ня ён гэта

да Вінцэнтага Лычкоўскага едзе ў Ракуцёўшчыну.

— Так, гэта я.

— Я пасланы, каб забраць Вашэцю. Вось тут за рогам мая павозка. Калі ласка, ня турбуйцеся за чамаданчык, паніч!

І ён падхапіў яго ды, паказваючы пугаўём дарогу,ськіраваўся за рог. Максім пасьпяшаў за ім ледзь не ўдагонку. Дзяцюк рабіў шырокія крокі.Неўзабаве Максім пабачыў двое коней, запрэжаных у каламагу. Той паклаў чамаданчык на падводу й папрасіў Максіма садзіцца на сена. Усеўшыся на перадок, ён гукнуў на коняй, і тыя панесьліся, як на выперадкі. Фурман удала абмінуў мястэчка, і яны апынуліся на дарозе проста ў Ракуцёўшчыну. Зараз паказалася з пагорку кучка хат, невялікая вулачка ды пара завулкаў. За вёскай паказаўся з-за прысадаў невялікі дом з малымі вокнамі, мала чым адрозны ад курных хат сялян. Але на страсе быў вялікі комін. Дом быў прастарнейшы відаць, бо меў вялікую заімшэлую вэранду. Зьлева вылучаўся сярод зяленіны невялічкі з вокнамі дамок. Высокія ахапістыя ліпы сварылі цяністыя прысады. Пад імі ў засеньні возьнік прыпыніў коней і сказаў голасна:

— Вось, паніч, той фальварак, куды Вашэці трэ было. Ну, а вось і сам гаспадар, пан Вінцэнты! — сказаў фурман і пачаў адводзіць коняй за хату ў стойла.

Тым часам сам гаспадар падыйшоў да госьця, павітаўся зь ім за руку, адрэкамандаваўся Вацлавам і Вінцэнтым Лычкоўскім, узяў чамаданчык і запрасіў ісьці ў хату. Дом у сярэдзіне выдаўся куды большым, чымся здавалася знадворку. У ім было колькі пакояў, кухня, кладоўка. Гасьцінны пакой займаў значную частку дому. У ім было колькі крэслаў, каля сьцяны канапа ды вялікі стол, удоўжкі засланы настольнікам. На вокнах стаялі вазоны з рознымі кветкамі. У кутку вісеў абраз Божай Маці з Божым Сынам. На ўсім ляжала адзнака клопату й жаночае акуратнасьці.

На запросіны гаспадара Максім прысеў у крэсла й пачаў апавядаць, што ён бачыў у Вільні. Перадаў павіншаваньні пляменьнікаў ды зычэньні дабра й здароўя. Вінцэнты выяўляў цікавасьць да розных драбніцаў з жыцьця віленчукоў і браў да сэрца кажную ўдачу ці няўвязку. Ён прыпомніў, як гуляў з малымі, калі прыяжджаў да швагра ў Шаўлі бадай чвэрць веку таму, і як малыя любілі яго за розныя выдумкі ў гульнях, а найбольш за апавяданыя ім казкі.

— Я ім тады гаўкаў як сабака, выў як воўк, ды кукаваў як зязюля. Яны любілі, калі я іх насіў на плячох. Меншы, Антось, надта любіў дакранацца да столі, седзячы на маёй шыі. Ён тады яшчэ толькі пачынаў хадзіць, калі Івась насіўся ўжо як угарэлы ды надта любіў гуляць у хаванкі. Я прывозіў ім цукеркі. Калі-ж падрасьлі й абодва былі ўжо вучнямі, надта любілі чытаць. Едучы праз Вільню, я купляў ім каляровыя кніжкі з казкамі пра зьвяроў. Аднойчы Івась, разгарнуўшы кагадзе мною прывезеную кнігу, зьдзівіў мяне запытаньнем:

— Чаму гэта ўсё не па-нашаму, ня так, як мы гаворым?

У гімназіі, якую адзін канчаў, а меншы пачынаў, настаўнікі хвалілі іх за здольнасьц, толькі калі Івася хваліў настаўнік гісторыі, дык Антося хваліў настаўнік моваў. Абодва скончылі навуку з гонарамі й пайшлі на ўнівэрсытэты, праўда за рознымі навукамі. Але выйшла гэтак, што мне ў спадчыну ад бацькі застаўся гэты фальварак, а пляменьнікам пасьля сьмерці майго брата Янкі прышлася спадчына ў Шаўлях, якую яны прадалі й на тыя грошы распачалі цяперашнюю справу.Маглі-б жыць панамі, а яно вось як абярнулася. Далася ім тая беларуская справа, ахвяруюць ёй і сродкі, і сябе. Але шчасьлівыя! Дык памагай ім, Бог!

— А вашэця сябе лічыць за беларуса ці паляка?

— Пэўна-ж мы беларусы, хоць спакон вякоў да засьцянковай шляхты належым. Наш гонар адлучае нас ад селяніна, але-ж гаворым мы на аднэй зь ім мове, жывём побач ды пад тым самым ціскам. Заінтэрасаваньні-ж нашыя таксама падобныя. Праўда, некаторыя шляхцічы ўважаюць сябе з-за свае цемнаты за палякаў, але як разгаворацца, дык тут днём з агнём іх не адрозьніш ад звычайнага селяніна ды беларуса.

Надоечы аб гэтым я чытаў у "Нашай ніве". Праўду пішуць мае пляменьнічкі, каб толькі не ўрачы... Ды што гэта я ўсё гэта, — схамянуўся дзядзька Вінцэнты. — Тут чалавек з дарогі, а я яму пра пра тое ды сёе. Калі ласка, дарагі госьцейку, у тую хатку, што кагадзе мінулі. Яна вашэці адведзена, — прагаварыў ён скорагаворкай Максіму, і ўхапіўшы чамаданчык панёс яго туды. За ім пайшоў і госьць.

— Вось тут і будзеце жыць у нас. Уладкоўвацеся. А па часе, калі ласка, на полудзень да нас у залю. Пакаёўка ўжо турбуецца на кухні, хутка будзе гатова. Дык не забывайцеся, што з дарогі трэба падмацавацца, — сказаў Вінцэнты й таропка пайшоў з хаткі.

Максім агледзеўся. Тая хатка складалася з аднаго вялікага, прасторнага пакою з вокнамі ў сад і невялікай кафлянай печкай недалёка ад уваходу. За ёю стаяў звычайны ложак, засьцелены жоўта-кармазынавай коўдрай. На ім ляжалі дзьве ўзьбітыя падушкі. Побач стаяў зэдлік з газавай лямпай. У кутку прытулілася карычневая шафа. Каля вакна зьлева стаяў засланы белым з ружовымі ўзорамі абрусам столік, а побач — невысокае крэсла. На століку віднелася чарніліца й папера. Відаць, гаспадар паклапаціўся, каб госьцю-паэту было ўтульна й зручна, ды каб мог калі трэба й пісаць. Максім у думках аддаў належнае гаспадарскаму клопату пра госьця. "Адразу адчуваецца, — з задаваленьнем меркаваў ён, — уважлівасьць да чалавека. Відаць. да добраманерных людзей я трапіў, абыходлівых і гасьцінных". Ён падыйшоў да вакна. Аканьніцы былі адчыненыя. Знадворку палыхнула пахам кветак. Зялёныя галіны ледзь не краналіся аконнай рамы. Шматлікія шэрагі садовых дрэваў тварылі суцэльны гай, канца якога ня было відаць з вакна. З саду плыло многагалоснае птушынае шчабятаньне. Яно клікала Максіма выйсьці на прастор, і бліжэй пазнацца з прыгажуняй-прыродай. Аднак, трэба было ра-

забрацца. Вярнуўся да чамаданчыка, адчыніў яго й пачаў складаць бялізну ў шафу. Выклаў на верхнюю паліцу брытву й зубачыстку. Апусьцелы чамаданчык сунуў пад ложак, а сам сеў насупраць другога вакна. Праз яго віднеўся ў далячыні сіні лес, а побач хаткі — сад ды перабіваныя хмызьняком невялічкія паляны. Усё гэта залівала сонца сваім зыркім сьвятлом, ад чаго ўсё рабілася весялейшым і больш прывабным. "Часу ў мяне яшчэ багата, — думаў ён цяпер. — Яшчэ нагуляюся тут удосталь. Будзе яшчэ часу нацешыцца гэтым зялёным чарам..." Калі ад адчуванай ува ўсім целе стомы вочы пачалі жмурыцца, Максім пачуў далікатны постук у дзьверы й запрасіны на полудзень.

## 2

Вялікай неспадзяванкай было тут сустрэць Аляксандра Уласава, немаладога ўжо чалавека, гадоў пад пяцьдзесят, але з пышнай чупрынай ды вусамі, зьлёгка кранутымі ўжо сівізной. Высокі, моцна збудаваны Аляксандр прыўстаў і выцягнуў руку, калі Вінцэнты знаёміў яго з Максімам. Ён назваўся Уласавым, рэдактарам "Нашай нівы". Максім адразу ўспомніў, што бачыў неаднаразова ягонае прозьвішча на балонках газэты, як рэдактара.

— Ехаў зь Мігаўкі праз Радашковічы ў Вільню, ды ўспомніў свайго знаёмага Вінцэнтага, закарцела пабачыцца. А тут успомніў, што й паэта чакаецца тут на гэты самы дзень госьцем. А ад Краснага рукой падаць сюды. Вось і прыехаў, а ў Вільню пазьнейшым цягніком пасьпею, — гаварыў нечаканы госьць, як-бы хочучы апраўдацца за фатыгу адведаньня. — Дык гэта-ж я й параіў Антону Луцкевічу запрасіць паэта сюды, у гэтую ціхую мясьціну. Спадзяюся, вашэця Вінцэнты на мяне за гэта не сярдуе.

— Наадварот, я ўдзячны вам за гэтую нагоду пагасьціць дарагога госьця. Ён будзе ладна красіць сабою наш фальварак гэтым летам. Дзякуй за добры падказ. Ды й паненкам маім будзе весялей, калі хутка прыедуць зь Вільні на летаваньне, — сказаў Вінцэнты й глянуў у вочы Максіму. Той не ўтрымаўся, каб ня выказаць сваю ўдзячнасьць.

Гаспадар запрасіў на пачостку за стол. А стол аж ламаўся ад талерак з нарэзанымі палядвіцамі, вянглінай, рознымі каўбасамі ды вырабамі. Стаялі там пасярэдзіне й дзьве бутэлькі чырвонага й белага віна. Але гаспадар пачаў з пляшкі мацнейшага, наліўшы кажнаму ў чарку.

— Дык ня змушаю чакаць доўга, паны-дабрадзеі. За вашэцева здароўе, за здаровейка госьця асобна прашу перакуліць чарачкі.

Максіму было няпрывычна піць гарэлку, ён адно прыгубіў тую чарку й доўга трымаў яе ў руцэ, пакуль частаваўся палядвіцай.

Пакаёўка прынесла з кухні вялікую пасудзіну са стравай ды пачала разьліваць яе ў талеркі перад кажным. Гаворка набрала тэмпу. Уласаў пачаў расказваць, як Вінцэнтаму добра ўдаецца на тых двух

валоках зямлі павесьці гаспадарку, і толькі пры дапамозе двух парабкоў усё ў часе пасеяць і прыбраць. Праўда, удаўцу не абыйсьціся без жаночае дапамогі. Ён мае вельмі добрую пакаёўку, што з усім спраўляецца, як ні кожная нават жонка. Толькі часам яшчэ прыходзіць некалькі жанчынаў з Ракуцёўшчыны, калі ўжо іншага паратунку няма ад работы ні ў хаце, ні ў полі. Сяньня-ж нядзеля, работніцы ня прыйшлі, толькі пакаёўка тут і завіхаецца. Ды днямі дзьве дачкі прыедуць, шмат у чым памогуць.

Уласаў, відаць, тут быў частым госьцем, бо ведаў усе таямніцы гэтае хаты. Ды й да ягонае сялібы ў Мігаўках каля Радашковічаў было адгэтуль зусім блізка, ды ёсьць зручная чыгуначная сувязь праз станцыю Краснае ў Вільню.

— Але як-жа вы спраўляецеся падоўгу сядзець у Мігаўцы, і ў Вільні газэту рэдагаваць? — спытаў Максім.

— О, гэта папраўдзе кажучы, толькі намінальная пасада. Даў сваё прозьвішча, каб на сябе прыняць адказнасьць. Фактычна-ж газэту рэдагуюць Антон і Вацлаў. Яны абодвы — фахоўцы ў гэтай справе. Мне-б за імі ня ўгнацца. Я яшчэ крыху дапамагаю грашыма, каб для рэдакцыі дах быў над галавой. А рэшта — ганаровая праца тых энтузіястых. А што да Вацлава Ластоўскага, дык ён — хадзячая энцыклапэдыя: усё ведае, на ўсе пытаньні дасьць грунтоўны адказ. Золата — чалавек. Калі бачымся, не нарадуюся ім, гэта-ж шчасьце мецць яго ў газэце.

— О так, [illegible] ў гэтым пераканаўся, калі пагутарыў зь ім дзьве начы, — сказаў Максім. — Чалавек сьведамы мінулага свайго краю й далёка сягае паглядам у прышласьць. Я схамянуўся ад свайго сумненьня, калі пачуў ягонае слова, па якім я так быў усьмяг. Ён акрыліў мае надзеі на немінучае адраджэньне нашага народу. Цяпер хочацца жыць і працаваць для народнага дабра.

— Гэта пахвальна! Больш нас, лепш пойдзе справа.

Тым часам пакаёўка прынесла смажаніну й пачала раскладаць загадзя ўжо нарэзаныя кавалкі. Яна хацела выйсьці, але Вінцэнты запрасіў яе да стала.

— Даволі ідно ўвіхацца каля кухні. Сядай, даражэнькая, з намі за стол, — сказаў ён і ўзяў яе за крысо сукенкі. — Раскажы, чым жывеш, — і ён далікатна сьціраваў яе на крэсла каля сябе.

— Што казаць пра сябе. Жыву лепш, чымся іншыя ўдовы жывуць. Дзякуючы пану Вінцэнтаму маю й пакой і занятак. А дома дзеці ня плачуць, есьці ня просяць — няма іх. Так што думаю ўвесь час, як лепей дагадзіць майму дабрадзею.

— Яна ў мяне малайчына! Усё ў доме дагледзіць, у час зварыць, прыбярэ ды яшчэ час знойдзе прагуляцца ў Краснае. Гэткую Гэлю й за вялікі кораб дукатаў ня знойдзеш! — сказаў ён паўголасна ў бок Уласава, але каб і пакаёўка пачула. А тая зачырванелася й апусьціла вочы долу.

— Прыйдзецца, відаць, мне пабрацца зь ёю! — ужо зусім ціха сказаў бліжэй да Уласавага вуха Вінцэнты. — Дарма, што яна з

сялянаў, але каля паноў пацерлася, выглянцавалася, дык і не адрозьніш яе ад нашага брата. Што вашэця скажа на гэта?

— А чаму-ж не, калі добрая жанчына. Ды й маладая яшчэ, заляцацца можна. Калі да спадобы, бяры. А што гаспадыня, дык гэта відаць з усяго. Жаніся, дабрадзею, ды Бога хвалі. Само шчасьце ў хату йдзе, — заключыў Уласаў.

Вінцэнтаму прыемна было пачуць згоду на яго выбар з вуснаў старэйшага прыхільніка гэтае хаты. На тым ён і наважыўся, адно хацеў ён пачуць яшчэ думку дачок, хоць у іхнай згодзе не сумняваўся.

Пасьля салодкага, Вінцэнты з Уласавым прыкладаліся яшчэ да чаркі. Максім папрасіў абыйсьці яго, бо ён да гэтага ня прывычны. Далей смакавалі віно, і калі нарэшце настрой падняўся вышэй належнага — пачаліся сьпевы. Ім падпявала Гэля. Спачатку нясьмела, бадай паўголасам, а затым асьмялеўшы, яна пачала выдзяляцца голасам. І хутка яе голас узвышаўся над іншымі галасамі, прыпамінаючы гады, калі яна была сярод вясковых дзяўчат запявалкай.

Ой, заржы, заржы, сівы конічак,
Па полі гарцуючы.
Ці не пачуе мая мілая,
Вячэру гатуючы.

Слухаючы яе звонкі голас здавалася, што сівы конічак сапраўды пачынаў іржаць. І яго пачула, цяжка ўздыхнула й сьлёзкамі заплакала тая мілая, што паляцела-б па белым сьвеце міленькага шукаці, каб была шэрай зязюляй і ўмела кукаваці. І ўяўлялася, як яна прылятала ў вішнёвенькі сад кукаваці, і як выходзіла ўдоўка, бедная галоўка, пачынала разважаці, што ёй, пакінутай, няма зь кім малых дзетак гадаваці, а сьцелючы пасьцель, няма зь кім размаўляці, бо сьценка нéма, да яе не гаворыць.

А калі завялі жартоўную "Чаму-ж мне ня пець..." хата напоўнілася адчуваньнем вялікага болю за гіранічна абыграны тут народны побыт, з яго нястачамі й уцехамі.

І тыя дэталі "парадку ў хатаньцы" — мушка на акенцы, што ў цымбалкі б'ець, павучок на сьценцы кросенцы снуець, парсючок пад лаўкай бульбачку грызець, пятушок на століку крошачкі дзяўбець, і, нарэшце, дзіцё ў калысачцы, як бычок равець, — напаўняліся тут такім адчувальным зьместам, што рабіліся жыцьцядайнымі, абярталі сум у запал жыцьцёвай радасьці.

А калі ўсе разам зацягнулі "Лявоніху", дык здавалася ад рэха калацілася хата, ад нялічных тут галасоў.

Ой, Лявоніха, Лявоніха мая!
Несалёная капуста твая!
Ліха мачыха на пасынка была,
Несалёную капусту дала,
А пасынка дык і чорт не бярэ,
Несалёную капусту жарэ.

Максім адчуваў сябе на сёмым небе: ён як-бы акунуўся ў стыхію роднай песьні й чэрпаў у ёй сілу й натхненьне жыць дзеля роднай культуры. Ён пільна сачыў за выразнасьцю твараў сьпевакоў і думаў аб захаванай у народзе энэргіі да творства.

Зморany, хоць і абнадзеяны, пасьля даўгіх "дабраначаў", ён даволі позна апынуўся ў сваім пакоі й неўзабаве заснуў. У сьне яго ізноў адведалі тыя-ж госьці й пацяшалі іншымі песьнямі. Але раніцай ён ужо ня мог прыпомніць іхнага зьместу. З касьнікамі сонечнага сьвятла яны зьніклі, як прывіды.

3

Ледзь пасьпеў адчыніць дзьверы ў гасьцінную, як гаспадар прывітаўшы яго, запрасіў за стол сьнедаць.

— Як маіцесь, дабрадзею?

— Дзякуй, добра.

— Калі ласка, частуйцеся, чым хата багата, — прагаварыў гаспадар, падсоўваючы да Максімавага краю стала талерку, поўную нарэзанай каўбасы й сыру. Ён наліў яму кубак кавы, а сам выйшаў на покліч пакаёўкі на панадворак. Максім хутка зьеў сьняданак, запіў кавай і выйшаў з хаты. Сонца ўжо паднялося даволі высока й залівала зыркімі праменьнямі прагаліны ў прысадах.

Ён разглянуўся навокал. Ракуцёўшчына выглядала даволі маляўнічым куточкам. З правага боку лес падступаў бадай што да самых хат і да фальварка. На сьхіле ўзвышша за фальваркам цягнуўся сад, ніжэй ішла вузкая палоска зырка-зялёнага лугу. Яго пераразала невялічкая рачушка, што булькацела між альховых кустоў. Зь левага боку на высокіх узгорках цямнелі шумныя векавыя бары. Яны разам як-бы заціскалі ў нешырокай лагчыне й фальварак, і вузенькія вулкі невялікай вёскі. Абапал вулкі віднеліся струхлелыя стрэхі з пачарнелай саломы. Але вока Максіма з прыемнасьцю пабачыла, што каля кажнай хаты быў агародчык, дзе цьвілі макі яркімі калёрамі, бы тыя васількі. Часам была відаць крывая, старая груша з парасьнікам маладых атожылак каля ствала, або запушчаная яблынька, за гады недагляданая аброслая гукáмі й сухімі галінамі.

Максім падаўся ў бок саду, павольна ўзыходзячы на сьхіл па пакручастай сьцежцы. Увесь дол быў усыпаны кагадзе адцьвіўшым спадам яблычнага, грушынага й вішнёвага цьвету. Ён дайшоў да вялікага каменя, з-пад якога выцякала крыштальна-чыстая крыніца, прысеў на яго й задумаўся. Наводдалі красуе й у цішыне нібы дрэмле, набіраючы сілы, зеленаватае яшчэ жыта. З-пад яго сінімі вачыма выглядаюць любімыя Максімам васількі. Яны выдаюцца яму вечнай красой роднага краю. Іх там многа, і ён не ўстрымаўся, каб не пайсьці й не сабраць іх вялікі букет. Ён іх нюхаў і прыкладаў да грудзей, як найвялікшы скарб, дараваны яму радзімай. Пасьля нагнуўся над крынічным булькаценьнем і глынуў колькі глыткоў ахалоджанай празрыстасьці. Яна прыемна ахаладзіла цела й надала новага імпэту.

Яму захацелася вярнуцца дадому й пачаць тварыць. Ё падаўся назад у свой пакой.

Як толькі ён узяў у руку пяро, на паперу пачалі выліваццa словы. Яны клаліся на паперу дробнымі пацеркамі й занатоўвалі, што ўжо даўно вярцелася ў галаве й прасілася на язык, але адкладалася надалей штодзённымі клопатамі. Ён напісаў першыя, ужо даўно знаёмыя яму словы —

А родных ніў, ад роднай хаты
У панскі двор дзеля красы
Яны, бяздольныя, узяты
Ткаць залатыя паясы.

Прачытаў іх, супыніўся ў думках, аддаўся ўяве кантрасту прымусовай, прыгоньніцкай працы за ткальным станком ткачых, і летняй раскошы ў палёх, дзе сінеюць у жыце мілыя сэрцу васількі. Ягонаму ўяўленьню прыйшоў зыркі вобраз таго, як, забыўшыся, міжвольна вытыкаецца заміж чужога ўзору родны васілёк.

І цягам доўгія часіны,
Дзявочыя забыўшы сны,
Свае шырокія тканіны
На лад пэрсідзкі ткуць яны.
А за сьцяной сьмяецца поле,
Зіяе неба з-за вакна, —
І думкі мкнуцца мімаволі
Туды, дзе расьцьвіла вясна;
Дзе блішча збожжа ў яснай далі,
Сінеюць міла васількі;
Халодным срэбрам зьзяюць хвалі
Між гор ліючае ракі;
Цямнее край зубчаты бору...
І тчэ, забыўшыся, рука,
Заміж пэрсідзкага вузору,
Радзімы цьвецік васілька.

Максім перачытваў напісанае й углядаўся ў васільковы букет, пастаўлены ў ваду на падаконьніку. У ваччу паўставалі ўзоры слуцкіх паясоў, бачаных у Вільні. Іх карункі абыймалі нахіленыя да сярэдзіны галоўкі родных красак, і сярод іх красаваўся незабыўны родны васілёк. Любасьць да яго запаланяла сэрца маладога паэты, і ён пачуваў сябе шчасьлівым уладальнікам гэтае красы.

4

Наступнага дня Максім пасьля сьнеданьня выправіўся ў вёску. Ён ізноў прайшоўся каля падсьлепаватых хатаў Ракуцёўшчыны. Адтуль ня чулася ні галасоў, ні зыкаў. Была рабочая пара, увесь люд ужо даўно быў у полі. Чарнеліся толькі маленькія вокны ў сьценах

пад счарнелай саломай стрэх. Было нудна бачыць гэтае бязьлюдзьдзе. Цешылі, аднак, душу шматколерныя дываны яркіх макаў, што, як тыя матылькі, высыпалі ў градах каля хацінаў. Аздаблялі краявід і адзінокія дрэвы садовіны. А паза гэтым, ніводнае жывое душы, ні аднае адзнакі жыцьця. Не прамільгне сялянская магерка, не парадуе вока маладзіца зь вёдрамі па ваду, не зарабаціць пярэстая спадніца вясковае бабы. Ні толькі ня чутно звонкай песьні, але не кране паветра й раптоўнае іржаньне жарабка. Бязьмежная маўклівасьць напаўняла прастору цішынёй і застоем.

Максім запыняўся бадай што каля кажнае брамы, углядаўся ў панадворак, найчасьцей пусты. Часам можна было заўважыць пакінутыя драбіны са скрыўленымі калёсамі або бяз іх. Стаялі на зямлі карыты й самаробныя драўляныя вёдры. Часам нат пакінутыя адчыненымі дзьверы ў хату рабілі ўваход асьветленым сонцам, і праз яго віднеліся нескладаныя рэчы хатняга ўжытку, складзеныя ў бакоўцы. Адно часам забрэша сучка ды кінецца на пару крокаў ад дзьвярэй, скугочачы на нечаканага падарожніка, што праявіў цікавасьць да хаты, але далей ня пойдзе й неўзабаве замаўчыць, павільваючы хвастом, як-бы просячы прабачэньня за такі недалікатны прыём.

Патаптаўшы па крывой вулцы й не знайшоўшы жывое душы ў вёсцы, Максім ужо быў накіраваўся дадому, як раптам ён пачуў слабы крык дзіцяці. Ён аж уздрыгнуўся ад раптоўнасьці пачутага. Агледзіўшыся, ён зразумеў, што спудзіў малога. Той спалохаўся, калі ў абязлюдным кутку ўбачыў чужога чалавека. Дзіцяня папаўзло па траўцы каля сьцяжынкі, плачучы, да сваё нянькі — дзяўчынкі так гадоў пад восем. Дзіця кінулася да дзяўчынкавага падолу й там глытала свае сьлёзкі. Тая выцірала іх і штось шаптала дзіцяці ў вуха, як маці, каб супакоіць разладжанае дзіцянё.

Максім глядзеў на гэтую сцэну й у думках спалучаў гэты вобраз дзяўчынкі, самой яшчэ маленькай і падобнай на дзіця, з аблíччам мацеры. У яго галаве тыя два вобразы — дзяўчынкі й маці — зьліваліся ў адзіны жывы абраз чалавечай і боскай пекнаты. Ён быў ня ў сілах адарвацца ад жывога ўцелаўленьня гэтае прыгожасьці, і доўга яшчэ, адыходзячы, аглядаўся, каб лепш запамятаць той вобраз. І тая дзяўчынка, запэцканая, худзенькая й кволая, у простай сялянскай зрэбнай кашульцы, але тулячая да сябе дзіцятка, суцяшаючая яго ад спалохаў, здавалася яму цяпер поўнай цераз край якойсьці вялікай роднай красой, ад якой харашэе душа. Яму зрабілася неяк лёгка й прыемна на душы. На думку прыйшла згадка пра вялікага мастака Рафаэля, што выяўляў вышэйшае праз аблічча Божай Маці.

(працяг будзе.)

## СЁЕ - ТОЕ... і яшчэ НЕШТА...

Артыст так сьпяваў, што ў яго кідалі кветкі разам з вазамі.

**Думку, як і хмару, не пазавеш і не прагоніш.**

Малоць языком — гэта фізычная ці разумовая праца?

**Ня кідай слоў на вецер. Не забруджвай паветра.**

Цікава, а як называецца зуб мудрасьці ў дурня?

**Эканомце электраэнэргію! Калі ў каханай зьзяюць вочы, тушыце сьвятло!**

Пацеха дурня: ёсьць-жа яшчэ дурнейшыя.

**Галаву мыў чыста, але яна так і не пасьвятлела.**

Ня грэйце рукі ў чужых кішэнях.

**Дурны ня той, каму ў галаву прыходзяць дурныя думкі, а той, хто гаворыць іх уголас.**

На яго шчасьце ён меў столькі ворагаў, што ўсе яны не маглі да яго даступіцца.

**Ці можа ўзяць грэх на душу чалавек бяздушны?**

Быць маладым з кожным днём становіцца цяжэй.

**І з бліжнім трымайся на патрэбнай адлегласьці.**

"Напалавіну дурны" — абраза й для дурня.

**Якісьці ў нагу з часам, калі ён ляціць?**

У сямейным спэктаклі ролю суфлёра выконвае цёшча.

**Еў несалёнае, каб саліць іншым.**

Мы пачынаем цаніць уласнае здароўе тады, калі яму — грош цана.

**Нарэшце глянуў праўдзе ў вечы, і яна ня вытрымала яго ашуканскага позірку.**

Ці вецер у кішэні сваяк ветру ў галаве?

# ЖАРТАМ І ЎСУР'ЁЗ



— *Стары, як даўно мы не бачыліся! Чым жа ты займаўся ўсе гэтыя гады?*

**Глыбокі Ґраматычны аналіз з «Б. Ч.»**

Царкоўна-славянскае слова „благочестивый" перакладзена на „сьвятаблівы", якое не беларускага паходжаньня й з устаўкаю пасярэдзіне слова літары „е" будзе мець вульгарнае значэньне.



Не ўсе дома

Доўга кпіў з Хамы Ярома:
— У цябе як «ня ўсе дома...»
Адказаў яму Хама:
— Абражаеш ты дарма!
Што «ня ўсе» — яшчэ нічога.
У цябе-ж зусім «нікога»!

**ЗАМАЧЫЛІ**

Купіў Міхась для Зінкі
Цудоўныя бацінкі.
Сустрэў сяброў у парку.
Ну, як не возьмеш чарку!
Бацінкі пахвалілі,
Але каб не цяклі,
Спачатку замачылі,
А потым... прапілі.

— Мама, што гэта такое «галава сям'і?»
— Спытай у бацькі.
— А ён адкуль ведае?

**Доктар: — Я чуў, што памёр ваш муж.**
**Кабета: — Памёр...**
**Доктар: — А чаму-ж не паклікалі доктара?**
**Кабета: — Мы тутака, даражэнькі, і бяз доктара паміраем.**

Прафэсар: — Калі вы перастанеце спазьняцца на лекцыі?
Студэнт: — Адразу-ж, як толькі скончу інстытут.

**Сьцяпан прыехаў зь Менска дадому й расказвае жонцы:**

**— Там на будынках вісяць вялічэзныя літары, кажная, мабыць, з пуд. Адна было, як сарвалася ды мне на галаву...**

**— Ой, ліханька! — ускрыкнула жонка. — Як-жа яна цябе не забіла?**

**— На маё шчасьце, гэта быў мяккі знак.**

**Жонка ўцякла ад мужа. Праз нейкі час вярнулася назад і ўпрошвае, каб ён гэта ёй дараваў.**

**А муж кажа:**

**— Тое, што ты ўцякла ад мяне, магу даравацьь. Але тое, што назад вярнулася, я табе не дарую.**

# Вясёлы куточак



— Ну, бацька, трымайся. Прайграеш — будзеш задачкі рашаць.



— А давай мерацца не ростам, а вушамі.







— *Мамачка, гэты дзядзька мяне забярэ!*

— *Не бойся, не забярэ. Ён сваіх траіх кінуў.*



